# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

20 ліпеня 2018 года №29 (1212)





# Ён сніцца ім кожную ноч

## Бацькі забітага Андрэя Касяка напісалі Прэзідэнту

старонка 5

## Чарніцы, парэчкі, маліны... Якія ягады і за колькі прапануюць на маладзечанскім рынку?



старонка 3

## Ад авіябарацьбы з рудым сасновым пілільшчыкам у Астравецкім лясніцтве адмовіліся. Чаму?



старонка 8

## 14 ліпеня на Вілейскім вадасховішчы варылі і каштавалі юшку.



старонка 18




ISSN 1991–7155





Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





Вужынага караля размясцілі побач з Рыбіным царом.

## Дзевяці-метровага вужа паставілі ля вілейскага каледжа

ВІЛЕЙКА

Каля Вілейскага дзяржаўнага каледжа ўстанаўліваюць скульптуру Вужынага караля.

Аўтар твора – **Валеры Апарык**. Ідэя належыць дырэктару каледжа **Ігару Кіцікаву**.

– Кароль вужоў – гэта змяіны гаспадар, – распавядае Ігар Сямёнавіч. – У яго карона на галаве і залатыя завушніцы. Кожную восень ён вядзе ўсіх вужоў у цёплыя краі.

Па словах дырэктара каледжа, у планах – зрабіць іншых герояў міфалогіі: вужалак – дачок караля – і ўсім вядомых русалак. Вужынага караля размясцілі ля невялічкага штучнага вадаёма побач з Рыбіным царом, створаным Валерыем Апарыкам крыху раней.

Новы арт-аб'ект – дзевяць метраў у даўжыню.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Летнюю школу юных вучоных адкрылі на Маладзечаншчыне

МАЛАДЗЕЧНА

Каля 300 юных вучоных паўдзельнічаюць у 23 рэспубліканскай гадавой навукова-даследчай школе вучняў і настаўнікаў па матэматыцы, фізіцы, інфарматыцы, астраноміі, якая адкрываецца 16 ліпеня на базе САК «Брыганціна» ў Радашкавічах.

Сярод яе ўдзельнікаў больш за 40 вучняў малодшых класаў, каля ста 5-7 класаў і 160 старшакласнікаў. Шмат пераможцаў міжнародных спаборніцтваў у галіне матэматыкі, інфарматыкі, фізікі.

«Падрыхтоўкай вучняў зоймецца больш за сорак выкладчыкаў і маладых навукоўцаў Беларусі і Расіі», – распавялі ў прэс-службе БДУ. У праграму мерапрыемства ўключаны кансультацыі, навуковыя семінары і практычныя заняткі, культурна-азараўленчыя мерапрыемствы.

Навучанне пройдзе ў 18 групах. «У прыватнасці, самыя маленькія навучэнцы наведаюць гурток «Уводзіны ў даследчую дзейнасць», заняткі па арыгаметрыі. Для 5-7 класаў правядуць заняткі алімпіяднага тыпу па матэматыцы, інфарматыцы і фізіцы, а для старшакласнікаў – па сучаснай матэматыцы.

Акрамя таго, вучні 8-10 класаў падрыхтуюць навуковыя праекты. Свае даклады юныя навукоўцы прадставяць на заключнай канферэнцыі», – адзначылі ў БДУ.

Арганізатарамі 23 рэспубліканскай гадавой навукова-даследчай школы выступаюць БДУ, Міністэрства адукацыі Беларусі пры падтрымцы IT-кампаніі «Сістэмныя тэхналогіі». Завяршыцца праца школы 30 ліпеня.

Рэспубліканская навукова-даследчая школа вучняў і настаўнікаў упершыню прайшла ў 1995 годзе ў пасёлку Лужасна Віцебскай вобласці. Яе ўдзельнікамі тады сталі 65 школьнікаў і 30 педагогаў.

**Паводле БелТА.**

## На Вілейшчыне пачнуць навучаць юных блогераў-журналістаў

ВІЛЕЙКА

Спецыяльную адукацыйную праграму арганізавалі на базе адпачынку «Вілія», паведамляюць на сайце ДРАЦ «Надзея».

Праграма будзе доўжыцца ад 29 ліпеня да 9 жніўня. У планах арганізатараў сабраць на навучанне 30 дзяцей 11-14 гадоў. Па задумцы гэтыя курсы павінны дапамагчы сфарміраваць журналістаў, здольных дзейнічаць самастойна або ў камандзе і ўплываць на інфармацыйнае асяроддзе.

**Паводле сайта ДРАЦ «Надзея».**

# Дэпутаты абмеркавалі, як забяспечыць вяскоўцаў добрай пітной вадой

ВІЛЕЙКА

**На апошняй сесіі ў канцы чэрвеня вілейскія дэпутаты абмеркавалі праблему водаадвядзення і водазабеспячэння ў сельскай мясцовасці, а таксама гутарылі пра якасць вады.**

У Савеце дэпутатаў адзначаюць, што праблема водаадвядзення і водазабеспячэння на вёсцы адна з самых актуальных і балючых на Вілейшчыне. Менавіта гэтыя пытанні людзі часцей за ўсё закранаюць на прыёмах у дэпутатаў, на сельскіх сходах, у пісьмовых зваротах.

**Рашэнне «Аб стане водазабеспячэння і водаадвядзення ў сельскіх населеных пунктах» прынялі яшчэ ў снежні 2015 года. Цяпер слухалі справаздачу пра выкананне гэтага рашэння.**

З выступленняў **Аляксандра Міны**, дырэктара Вілейскага водаканала, **Мікалая Сабалеўскага**, начальніка райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, і **Наталлі Жаўняровіч**, галоўнага доктара Вілейскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, прысутныя даведаліся, што ўжо выканана, а над чым яшчэ трэба папрацаваць.

Усяго на тэрыторыі Вілейшчыны 309 артэзіянскіх свідравін. Падземную прэсную ваду здабываюць са 194. З іх 120 знаходзяцца на балансе сельгаспрадпрыемстваў, 58 адносяцца да вілейскага водаканала, яшчэ 15 – на балансе іншых арганізацый. 65 свідравін законсерваваныя. На 50 трэба правесці ліквідацыйны тампанаж – закупорку. Бо тэрмін службы ў іх выйшаў або ёсць дэфекты, таму вада можа забруджвацца.



У Будзішчы на Вілейшчыне гаспадары карыстаюцца індывідуальнымі калодзежамі.

Летась мадэрнізавалі ачышчальныя збудаванні ў Вілейцы, замянілі помпавае абсталяванне ў Ілы, на ачышчальных збудаваннях горада і раёна. На сямі артэзіянскіх свідравінах помпавае абсталяванне памянялі на новае.

Таксама ў Вілейцы замянілі больш за тысячу метраў зношанага водаправода. 20 калонак на Вілейшчыне дэмантавалі, на 25 паставілі замкі.

Наталля Жаўняровіч звярнула ўвагу на якасць вады і яе ўплыў на здароўе чалавека. Калі вада не адпавядае мікрабіялагічным і хімічным паказчыкам, гэта можа выклікаць хваробы страўніка і кішэчніка, суставаў, скуры, нервовай сістэмы, печані, з'яўленне камянёў у нырках і развіццё анеміі.

Аналіз, які рабілі спецыялісты Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, паказаў, што ў параўнанні з мінулым годам якасць вады з камунальных водаправодаў палепшылася, а вада з ведамасных водаправодаў і індывідуальных збудаванняў (калодзежаў, свідравін) стала горшай. Найбольш трывожыць спецыялістаў менавіта вада з індывідуальных збудаванняў або, як іх афіцыйна называюць, з крыніц дэцэнтралізаванага водазабеспячэння.

Згодна з Дэкрэтам №7 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 23 лістапада 2017 года «Аб развіцці прадпрымальніцтва» і іншымі дзяржаўнымі актамі, прадпрымальнікамі павінны выконвацца прынцып добрасумленнасці, ствараіцца ўмовы, якія б не дапускалі шкоды навакольнаму асяроддзю, жыццю, здароўю, правам і інтарэсам людзей, якія б спрыялі забеспячэнню грамадзян якаснай пітной вадой. Аднак не ўсе прадпрымальнікі на Вілейшчыне добрасумленна і адказна ставяцца да падобных патрабаванняў.

На Вілейшчыне – 6 тысяч 248 індывідуальных і 34 грамадскія калодзежы. Па выніках праверкі вядома, што 11 грамадскіх калодзежаў знаходзяцца ў нездавальняючым стане. А гэта не лепшым чынам адбіваецца на якасці вады.

Пры гэтым кіраўнікі ўстаноў, на балансе якіх знаходзяцца калодзежы, не праводзяць іх прафілактычную чыстку і дэзінфекцыю, не арганізуюць лабараторны кантроль за якасцю вады, акрамя Любанскага, Людвіноўскага і Даўгінаўскага сельвыканкамаў.

**Па выніках сесіі дэпутаты прыйшлі да высновы, што на Вілейшчыне яшчэ ёсць над чым працаваць па праблеме водазабеспячэння і водаадвядзення ў сельскай мясцовасці, асабліва сельскагаспадарчым арганізацыям і большасці сельвыканкамаў.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Якія ягады прапануюць на маладзечанскім рынку

МАЛАДЗЕЧНА

**Сезон клубніцаў скончыўся некалькі тыдняў таму, а журавінаў і ажынаў – яшчэ не пачаўся. Якія ягады гандляры прапануюць пакупнікам цяпер?**

У сярэдзіне лета на маладзечанскім базары шмат вішняў і чарэшняў, а таксама чорных і чырвоных парэчак.

### Адкуль вязуць

На гандлёвых радах унутры рынку дамашнія ягады амаль не прадаюць. Ёсць прывазныя чарэшні – крымскія і малдаўскія. Самыя танныя – па тры рублі за кілаграм, але часам цана дасягае шасці рублёў.

У нядзелю, 15 ліпеня, толькі ў адным месцы прапаноўвалі свае ягады – жоўтыя чарэшні і агрэст, – прывезеныя з Вілейкі.



Каля рынку ў Маладзечне заўсёды шмат ягад.

За межамі рынку ягад шмат. Яны растуць на ўласных падворках, іх збіраюць з вясковых і гарадскіх дрэў. Агрэст і чорныя парэчкі вязуць з Маладзечанскага раёна – Татаршчызны, Баяраў. Дурніцы – з Вілейскага раёна. Маліны збіраюць у Гарадку, чарэшні – у Маладзечне, Вілейцы, Смаргонскім раёне.

З Крэва **Ядвіга Селятыцкая** прывезла жоўтыя чарэшні. Каб пакупнікі ведалі, што гэта за ягады, яна напісала на кардоне назву. Людзі могуць пакаштаваць мытыя чарэшні перад набыццём. Жанчына прызналася, што працуе першы дзень, спажыўцы бяруць ягады добра. За паўлітра яна просіць два рублі, калі-нікалі пагаджаецца прадаць танней. Для збору чарэшняў давялося спілаваць дрэва.

– Галінкі знаходзіліся высока, не хацелася, каб птушкі падзяўблі ягады, – распавяла жанчына.

### За колькі прадаюць

За пяць літраў дамашніх чарэшняў просяць дзесяць рублёў, за тры – пяць. Літр каштуе два рублі.

Чырвоныя парэчкі – адны з самых танных ягад на рынку. За шэсць літраў бяруць чатыры рублі. Пяць літраў чорных можна набыць за шэсць-сем рублёў. Па такой жа цане прапануюць агрэст.



Жоўтыя чарэшні — вельмі салодкія.

За літр дурніцаў просяць пяць рублёў. Некаторыя пакупнікі блытаюць гэтыя ягады з чарніцамі. За тры-чатыры літры апошніх бяруць 17 рублёў. Але калі-нікалі сустракаюцца прапановы набыць тры літры за 12 рублёў.

Трохлітровае вядро малін прадаюць за дзевяць рублёў.

### Што робяць з ягад

Гандляры прадаюць лішкі ягад. Для сябе людзі вараць кампоты, варэнні, кісялі, робяць джэмы, віно, сокі. Таксама замарожваюць ягады на зіму.

**Тацяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.07 | 19.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1.9693 | **1.9886** |
| Еўра | 2.3082 | **2.3120** |
| Злоты, 10 | 5.3264 | **5.3641** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1688 | **3.1609** |
| Грыўня, 100 | 7.5092 | **7.5569** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **11.07** | **18.07** |
| Еўра | 2.3000/2.3200 | **2.2950/2.3200** |
| Долар ЗША | 1.9650/1.9800 | **1.9740/1.9920** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **11.07** | **18.07** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,68 | **18,48** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,60** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,95** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,20 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,15** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,70** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 0,95 | **0,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,30 | **1,70** |
| Бульба, 1 кг | 1,10 | **0,90** |
| Буракі, 1 кг | 1,20 | **1,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Морква, 1 кг | 2,00 | **1,70** |
| Памідоры, 1 кг | 2,20 | **2,30** |
| Перац, 1 кг | 2,20 | **2,00** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Бананы, 1 кг | 1,85 | **1,70** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Дыня, 1 кг | 3,00 | **3,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,20 | **0,95** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | – | **3,80** |
| Чарэшня, 1 кг | 3,70 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,50 | **2,70** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

# Не збірайце цэзій у кошыкі

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН

**Сабраныя ў лесе ягады могуць апынуцца радыеактыўнымі і нашкодзіць арганізму.**

Штогод спецыялісты знаходзяць перавышэнне радыеактыўнага цэзію.

У гэтым сезоне ўжо ёсць першыя вынікі. Мы не рэкамендуем збіраць ягады ў лесе каля вёскі Талуць Вілейскага раёна. Удзельная актыўнасць цэзію ў ягадах перасягнула ў 1,8 раза дапушчальную норму.

У чарніцах, сабраных у вёсцы Вуглы Валожынскага раёна, зафіксавалі значнае перавышэнне радыенукліду цэзію-137, у даследаваных ягадах яго ўдзельная актыўнасць перавысіла дапушчальную норму ў два разы.

Каб засцерагчы сябе ад такіх «дароў лесу», трэба правяраць дзікарослыя ягады ў адпаведнай лабараторыі, на рынках ці ў Маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі.

Рызыкоўна купляць дзікарослыя прадукты ў небяспечных месцах, асабліва каля аўтамабільных дарог – гарантыі за іх якасць ніхто не дае.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## За хабар затрымалі начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама

**СМАРГОНЬ**

Пракуратура Гродзенскай вобласці ўзбудзіла крымінальную справу ў адносінах да начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Смаргонскага райвыканкама, дэпутата Смаргонскага раённага Савета дэпутатаў, паведамляюць 17 ліпеня на сайце Генеральнай пракуратуры.

Падчас праверкі ўстанавілі, што чыноўнік меркаваў атрымаць хабар за выкананне пэўных дзеянняў з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў і вырашыць пытанне з уводам у эксплуатацыю будынка кінатэатра.

За гэта зацікаўленыя асобы абяцалі яму тры тысячы долараў. Падчас атрымання хабару ў тысячу долараў чыноўніка затрымалі.

**Паводле сайта Генпракуратуры Рэспублікі Беларусь.**

## У Маладзечне ў полі знайшлі цела мужчыны

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне каля вуліцы Крынічнай у жытнім полі вечарам 10 ліпеня знайшлі труп мужчыны з прыкметамі раскладання. Асобу памерлага ўстанавілі, распавёў «Рэгіянальнай газеце» старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

Па яго словах, цела знайшлі каля 19:00. Першапачаткова памерлы праходзіў па зводках як неапазнаны. Цела было ўжо з прыкметамі раскладання.

Пазней установілі, што гэта мужчына 1963 года нараджэння, які раней жыў на Крынічнай, а ў апошні час – у вёсцы Адамавічы. Судмедэксперты не знайшлі на трупе цялесных пашкоджанняў. Гэта сведчыць пра тое, што мужчыну не забівалі. Згодна з папярэднім заключэннем экспертаў, цела ў жытнім полі праляжала каля трох тыдняў.

– Мы праводзім праверку, – удакладніў Юры Багушэвіч. – Устанавілі, што каля трох тыдняў таму мужчына прыходзіў на Крынічную вуліцу да сваіх знаёмых. Крыміналу ў гэтай смерці мы не знайшлі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## У дачніка скралі чатыры вуллі з пчоламі

**АШМЯНЫ**

У міліцыю звярнуўся грамадзянін Літвы з заявай аб знікненні чатырох вулляў з пчоламі. Праз восем гадзін прапажу знайшлі.

Гаспадар вулляў жыве ў Літве, перыядычна прыязджае ў вёску Талоцішкі на Ашмяншчыне, дзе знаходзіцца яго лецішча. У гэты раз мужчына заўважыў прапажу ў падворку. Гаспадар звярнуўся ў міліцыю.

Старэйшы лейтэнант **Станіслаў Красоўскі** дзяжурыў у складзе следча-аператыўнай групы, калі паступіла паведамленне пра знікненне. Разам са следчым **Дзмітрыем Крупічовічам** і ўчастковым інспектарам **Сяргеем Гіруцем** выехалі на месца, выявілі сляды.

– Зразумелі, што з боку поля заязджалі калёсы. Пакуль афармлялі дакументы, следчы правёў агляд, мы з участковым пайшлі па слядах. Некалькі кіламетраў – і выйшлі да вёскі. Да гэтага заўважылі асаблівасць: у калёсах былі розныя заднія колы: адно вялікае і вузкае, як звычайна, а другое, як аўтамабільнае, меншае і шырэйшае, – распавядае Станіслаў Красоўскі.

Супрацоўнікі РАУС пачалі адпрацоўваць двары і, калі зайшлі ў чарговы, наткнуліся на калёсы, якія траплялі пад апісанне.

– Знайшлі гаспадара, пагаварылі, растлумачылі адказнасць. Мужчына ўсё расказаў. Аказалася, што здарэнне адбылося каля сутак таму. Паказаў месца, дзе знаходзяцца вуллі: іх вывезлі ў лес, – кажа Станіслаў Красоўскі.

Гаспадар апазнаў скрадзенае. Той, хто адважыўся на крадзеж, ужо прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

**Паводле OSH.BY.**

## Аварыя са смяротным зыходам адбылася ў Ашмянскім раёне

**АШМЯНЫ**

Аварыя здарылася 16 ліпеня ў Гальшанах.

Кіроўца з Ашмянаў на «Опелі» наехаў на мясцовага жыхара, які ляжаў на праезнай частцы.

Аварыя адбылася ў 21:45. Пацярпелы загінуў.

**Паводле сайта МУС.**

# На Маладзечаншчыне танулі дзве школьніцы: адну выратавалі, другая загінула

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Трагедыя здарылася 15 ліпеня каля трох гадзін дня.**


Фота pxhere.com.

Выратаваць атрымалася толькі адну дзяўчынку.

Дзве сяброўкі, 14-гадовая і 11-гадовая вучаніцы Алёхнавіцкай школы, без нагляду бацькоў купаліся ў штучным вадаёме ў вёсцы Путнікі Радашкавіцкага сельсавета.

Пра тое, што дзяўчынкі пачалі тануць, выратавальнікам паведаміла мясцовая жыхарка каля 15:00.

Да прыезду спецыялістаў відавочцы самі выратавалі 14-гадовую дзяўчынку. Яе 12-гадовай сяброўкі на паверхні вады ўжо не было бачна. Вадалазы знайшлі цела дзяўчынкі каля 16:00 на адлегласці прыкладна тры метры ад берага.

Дактары «хуткай дапамогі», што прыехалі на месца здарэння, спрабавалі рэанімаваць дзяўчынку. Але ў 16:13 канстатавалі смерць. Як распавялі мясцовыя выратавальнікі, вадаём, дзе патанула дзяўчынка, памерам 20 на 30 метраў. Глыбіня – каля чатырох метраў.

Абедзве дзяўчынкі – жыхаркі вёскі Путнікі.

Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку па факце смерці 11-гадовай дзяўчынкі.

Па папярэдніх дадзеных, кампанія з шасці падлеткаў захацела пакупацца ў штучным вадаёме і шукала зручнае месца. У гэты час дзяўчынка 2006 года нараджэння, якая стаяла па калена ў вадзе, паслізнулася на рэзкім схіле і падчас падзення пацягнула за сабой сяброўку, якая стаяла на беразе. Хлопцы паклікалі на дапамогу.

Следчыя агледзелі месца здарэння, пагутарылі з удзельнікамі, відавочцамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На будаўніцтве БелАЭС пры падзенні з вышыні загінуў мантажнік

**АСТРАВЕЦ**

Няшчасны выпадак адбыўся 16 ліпеня на будпляцоўцы Беларускай АЭС.

Мантажнік зваліўся з вялікай вышыні і загінуў. Пра гэта распавялі ў Міністэрстве энергетыкі Беларусі.

Як растлумачылі ў ведамстве, загінуў мужчына, грамадзянін Расіі. Ён працаваў мантажнікам у расійскай субпадрадной арганізацыі.

Больш падрабязнай інфармацыі ў міністэрстве не далі. Адзначаецца, што справа аб няшчасным выпадку расследуецца ва ўстаноўленым парадку.

**Паводле прэс-службы Міністэрства энергетыкі.**

## Гарэў жылы дом на Замкавай

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося ноччу 16 ліпеня.

Гаспадыня дома паведаміла пра пажар у МНС каля дзвюх гадзін ночы. Ратавальнікі, што прыбылі на месца, устанавілі: дах дома гарыць адкрытым полымем. Мяркуюць, што прычына – удар маланкі.

Пры пажары часткова знішчаны дах, мэбля ў адным з пакояў, закураныя сцены. Пра гэта паведаміла **Марына Ганчарова**, старшы інспектар групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага РАНС.

Ад маланкі ў Маладзечанскім раёне ў мінулыя выхадныя адключалася электразабеспячэнне ў некаторых населеных пунктах. Першыя паведамленні паступілі ў 20:10 ад жыхароў вуліцы Заречная ў Радашкавічах, вёсак Еленка, Гойжава, Пажарышча, Пятроўшчына, Агароднікі, Кілтаўцы. Пасля 22:30 адключалася электразабеспячэнне ў вёсках Маркава, Беніца, Рэдзькі, Якавічы. Інфармацыю перадалі ў Маладзечанскія электрасеткі.

Маладзечанскі РАНС раіць пры навальніцы не выходзіць з дому, зачыніць вокны і коміны, не паліць печы. Адключыць тэлевізар ці радыё, не карыстацца электрапрыборамі.

На вуліцы неабходна трымацца далей ад ліній электраперадач і антэн. Не бегаць, не хавацца пад дрэвамі, асабліва адзінокімі, бо маланка б'е ў самы высокі пункт.

**Аддзел інфармацыі.**

## Узялі пад варту пенсіянера, які зарэзаў наймальніка сваёй кватэры

**МАЛАДЗЕЧНА**

У адной з кватэр у Маладзечне нажом быў забіты 51-гадовы мужчына.

Здарэнне адбылося 7 ліпеня. Следства ўстанавіла, што пацярпелага ўдарыў нажом 61-гадовы гаспадар жылля. Старэйшы следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч** распавёў папярэднія падрабязнасці трагедыі:

– 61-гадовы пенсіянер здаваў кватэру 51-гадоваму мужчыну. 7 ліпеня яны разам выпівалі. Пасварыліся. Пабіліся. Адзін другому сказаў: «Ідзі дадому». І ўсё скончылася забойствам. Падазраванага 11 ліпеня ўзялі пад варту да суда. Злачынства караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад шасці да пятнаццаці гадоў.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Астравецкім раёне гарэла гаспадарчая пабудова. Верагодна ад маланкі

**АСТРАВЕЦ**

Узгаранне ў гаспадарчай пабудове адбылося 17 ліпеня ў вёсцы Падліпяны. Пра гэта паведамілі ў 18:20.

У выніку пажару знішчаны дах, пашкоджаныя сцены і абшыўка жылога дома, які стаіць побач на плошчы 10 квадратных метраў. Мяркуюць, што прычына ўзгарання – удар маланкі.

**Паводле сайта МНС.**

ТЭМА НУМАРА

# Ён сніцца ім кожную ноч

## Бацькі забітага Андрэя Касяка напісалі Прэзідэнту

**Бацькі забітага ўвосень 2016 года ўраджэнца Вілейкі Андрэя Касяка напісалі пісьмо Аляксандру Лукашэнку ў спадзяванні на дапамогу ў пошуках цела свайго сына.**

Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» са згоды блізкіх Андрэя Касяка друкуе фрагменты гэтага ліста.

«Добры дзень, Аляксандр Рыгоравіч!

Дачытайце, калі ласка, наш ліст да канца.

Пішуць Вам бацькі Андрэя Касяка, Зоя і Віктар.

У нас засталася адна надзея – на Вас. Мы доўгі час не можам пахаваць свайго сына Андрэя і па-хрысціянску ўшанаваць яго памяць.

**Андрэя па-зверску забілі 4 лістапада 2016 года. І да гэтага часу мы не ведаем, дзе цела нашага дарагога сыночка, брата, бацькі.**

У народзе кажуць: няма большага гора, чым хаваць сваіх дзяцей. У нашым выпадку нават гэта не так. У нас якраз і няма цяпер большага жадання, чым аддаць зямлі нашага першынца. Каб было куды прыйсці на магілку, паплакаць, пагаварыць. Распавесці, якімі растуць яго сын і дачка.

Хіба маглі мы ведаць у далёкім 1975-м, калі нарадзіўся наш Андрэйка, што праз шмат гадоў будзем беспаспяхова шукаць яго цела?

Мы заўсёды ганарыліся Андрэем. І як сынам, і як паважаным спецыялістам. Ён ніколі не спыняўся на дасягнутым. Таму, напэўна, у яго цудоўна складвалася кар'ера. Працаваў на кіруючых пасадах у «Мінаблгандальпраме», быў яго дырэктарам, кіраваў прадпрыемствам «Белкаапсэрвіс», Слуцкім райспажыўтаварыствам, кіраваў продажамі ў «Малочным гасцінцы». Ён быў поўны новых планаў і ідэй. Яго цікавілі старыя аўтамабілі, ён будаваў свой дом і сваю будучыню. Але ўсё гэта абарвалася ў той лістападаўскі дзень пазамінулага года.

Яго забівалі запланавана, жорстка, па-зверску і з карысці. Падманам зацягнулі ў пейнтбольны клуб на ўскраіне Мінска. І калі адзін з гэтых катаў, А.С., знаёміў Андрэя са сваім прыяцелем Р.С., каб адцягнуць увагу, то ўдарыў Андрэя ззаду малатком па галаве. З усіх сіл. Каб забіць напэўна.

Але нешта пайшло не так. Наш Андрэй быў вельмі высокім, дужым мужчынам. Справіцца з ім аказалася не проста. А.С. усё-ткі задушыў нашага сына. І калі Андрэй ужо не паказваў прыкмет жыцця, забойцы перанеслі цела ў распранальню клуба, раздзелі яго. У адных трусах ён праляжаў там да вечара.




Андрэй Касяк.

І як ні ў чым не бывала, яны з'ездзілі да Андрэя дадому ў Калодзішчы і забралі грошы. Гэта даказваюць дадзеныя тэлефонных размоў. Цана жыцця Андрэя, на думку забойцаў, была роўная некалькім дзясяткам тысяч долараў, якія выкралі з дому нашага сына.

Увечары забойцы загарнулі Андрэя ў плёнку, закруцілі скотчам і вывезлі ў невядомае месца.

Рэчы Андрэя спалілі ў бочцы на тэрыторыі пейнтклуба.

Адразу пасля гэтага паехалі забаўляцца. Р.С. – на дзень нараджэння сябра, А.С. – на вечар сустрэчы аднакласнікаў. Справа ж атрымалася! Усё прайшло, як і планавалі.

Што яны казалі за святочным сталом, якія тосты прамаўлялі, як усміхаліся? Жахліва падумаць, што нехта быў рады сустрэчы з імі.

У гэты самы час нежывое цела нашага сыночка астывала недзе пад Мінскам...

Усе падрабязнасці, пра якія мы Вам пішам, Аляксандр Рыгоравіч, да самых дробных дэталяў, былі расказаныя гэтымі катамі падчас следства. Вось толькі, дзе пакінулі яны цела Андрэя, забойцы не прызналіся.

Працэс над імі, які пачаўся 2 мая гэтага года ў гарадскім судзе Мінска, не скончыўся. Лета, адпачынкі ... Наўрад ці кагосьці трывожыць нязнойдзенае цела ахвяры злачынства так, як яго блізкіх.

Злачынства ўсё ж такі будзе раскрытае, злачынцы панясуць заслужанае пакаранне. І толькі кожнай ноччу маці і бацьку Андрэя ён будзе з'яўляцца ў сне з адной просьбай: «Мілыя мае, прыйдзіце да мяне на магілку. Я так хачу вас бачыць, мне так шмат ёсць чаго распавесці. Тое, што я не паспеў зрабіць у жыцці».

Аляксандр Рыгоравіч, дапамажыце нам знайсці цела Андрэя. Мы выкарыстоўвалі ўсе нашы магчымасці. Мы ўдзячныя і следчым, і суду, што яны імкнуцца ўстанавіць ісціну. Але так атрымліваецца, што і сродкаў, і сіл следчых, як і суда, не хапае, каб знайсці Андрэя.

Чаму забойцы забываюць самае важнае – дзе схавалі цела забітага? Нам кажуць: «Андрэй у іх не адзін. У іх свае магілкі». Калі гэта так, значыць, акрамя нас нехта таксама чакае-не дачакаецца свайго сынка ці дачушку, брата, сястрычку, маці або бацьку...

Просім, дапамажыце нам знайсці сына.

**Бацькі Андрэя Касяка Зоя Самуілаўна, Касяк Віктар Пятровіч».**

# Цела ахвяры жорсткага забойства не могуць знайсці амаль два гады. Як знік Андрэй Касяк

**Ураджэнец Вілейкі 41-гадовы менеджар сталічнай кампаніі Андрэй Касяк выехаў на «Аўдзі Q7» з Калодзішчаў у Мінск на працу раніцай 4 лістапада 2016 года. На месцы не з'явіўся.**

Не абазваўся ён і да родных.

Праз пяць дзён сястра Андрэя **Людміла** падала ў Мінскае РАУС заяву аб знікненні брата.

Праз пару дзён пасля падачы заявы аб знікненні Касяка ў РАУС паступіла інфармацыя пра тое, што ў пасёлку Лескаўка стаіць падобная да зніклай машына.

На апазнанне машыны быў выкліканы знаёмы зніклага Р.С., сённяшні абвінавачаны ў забойстве Касяка.

Сястра Андрэя ў размове з «РГ» кажа, што ёй да гэтага часу незразумела, чаму не паклікалі яе на гэта апазнанне. На яе думку, следчыя меркавалі, што сваякі нешта могуць утойваць ад следства.

– І зразумела, – кажа Людміла, – Р.С. не апазнаў аўтамабіль.

Сваякі звярнуліся па дапамогу ў выратавальна-пошукавы атрад «Анёл». Менавіта тады і «Рэгіянальная газета» надрукавала просьбу да чытачоў дапамагчы знайсці Касяка.

На аўтамабіль у Лескаўцы зноў звярнулі ўвагу. Людміла апазнала машыну свайго брата. У багажніку знайшлі кроў Андрэя. Завялі крымінальную справу па факце забойства.

Дома ў Андрэя зніклі грошы. Мабыць, забойцы хацелі завалодаць і аўтамабілем, але нешта пайшло не так.

Справу перадалі ў Цэнтральны апарат Следчага Камітэта Рэспублікі Беларусь.

**У забойстве абвінавацілі А.С. 1976 года нараджэння і таго самага Р.С. 1988 года нараджэння.**

І калі з А.С. Андрэй Касяк не быў знаёмы, то Р.С. нярэдка быў у Касяка, мог падвозіць яго на аўтамабілі. Ужо пасля знікнення Андрэя ён прыязджаў у госці да Людмілы, прапаноўваючы розныя свае паслугі. Сёння Людміла ўпэўненая, што мэтай тых візітаў Р.С. да яе было толькі даведацца, як ідзе следства.

Цела забітага не могуць знайсці да сёння.

У сваім звароце да Прэзідэнта бацькі Андрэя апісваюць, як забівалі іх сына. На следстве абвінавачаныя расказалі ў падрабязнасцях, як гэта адбылося ў пейнтклубе, дзе гаспадаром быў А.С. Паказалі, як забівалі, як загортвалі і пераносілі цела. Відэазапісы прызнанняў ёсць у адкрытым доступе ў інтэрнэце.

Вось толькі следства так і не дазналася, дзе знаходзіцца тое, што засталося ад Андрэя.

Крымінальная справа складаецца з 20 тамоў. Акрамя як у забойстве Касяка, Р.С. і А.С. абвінавацілі ў махлярстве, вымагальніцтве, пагрозе жыццю і крадзяжы.

У пачатку 2018 года следчыя перадалі справу ў суд.

У Андрэя засталіся дачка і сын ад розных шлюбаў, сястра, бацькі, якія жывуць у Вілейцы.

**Мікола ГАЙДУК.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ВІНШАВАНКА

**Соф'і Віктараўне**
**БАЯНКІНАЙ**
**са Смаргоні**

Дарагая Соф'я Віктараўна!
Віншуем Вас з юбілеем!
Жадаем Вам моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы.

*Няхай табе сонца смяецца,*
*Няхай табе ўсё удаецца,*
*Жадаем шчасця,*
*здароўя без лекаў.*
*Дабра і спакою, і доўгага веку.*
**Сям'я Махніс.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аудзі-100, Авант, 1985 г.в., 1,8, бензін. 1500 руб. Т. (8-029) 5545688.

• Опель-Амега, 1988 г.в., 1,8 газ-бензін, у добрым стане. Т. Вэлком (8-029) 1633772.*

• Сітраэн-Ксантыя, 2 літры, газ-бензін, 1999. Т. (8-029) 3414138.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Электрабайк новы, з гарантыяй. Магутны матор 1500 Вт, надзейная батарэя 72v20ah, хуткасць 50 км/г. Т. (8-029) 1383623.

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

Калегі з «Рэгіянальнай газеты» выказваюць глыбокае спачуванне **Аксане Ярашонак** і яе сям'і з прычыны напаткаўшага вялікага гора – смерці свёкра, бацькі, дзядулі. Мы падтрымліваем вас у гэтыя часіны, бо ўсялякае няшчасце лягчэй перажыць, калі ёсць побач людзі, якія хоць словам, хоць дотыкам рукі змогуць аблегчыць боль страты.

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных паласцей. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2746195.

• 1-пакаёвая кватэра ў Смаргоні (Заходні), 2 паверх. Т. (8-029) 8784199.

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Будаўнікоў,13. Т. (8-029) 5046429.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам. Альбо абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 7/9, па вул. Міру, або мяняю на Мінск. Т. (8-029) 1334595.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н «Зеніт». Т. (8-029) 8600978.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2 паверх, вул. Вальніца або абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• Дом вялікі ў добрым месцы, 13 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.

• Дом у Гаеўцах, Палачанскі с/с. Т. (8-029) 5071096, (8-044) 7116304.

• Дом у аг. Ілья. Т. (8-029) 2793377*.

• Дом з участкам 24,5, аг. Кураней, агароджа сетка, пячное ацяпленне (запас дроў), лазня, склеп, гараж, гаспадарчыя пабудовы. Вада ад калодзежа праведзеная ў дом. Бочкі металічныя на 200 л, 500 л, сценка (4 шафы з антрэсолямі), шырыня 4 м 20 см, шафа трохстворкавая з антрэсолямі, кніжная паліца вышынёй 2 м 20 см, ложкі «Глорыя» 1 м 40 см, 90 см. Т. (8-033) 3452326, (8-01771) 39962.

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага р-на. Лазня, калодзеж. Т. (8-029) 8587518.*

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Сінькі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом у в. Якавічы і дом у в. Маркава Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 5616191.*

• Дом цагляны ў вёсцы Кураней Вілейскага раёна агульнай плошчай больш за 100 кв. м, зямельны ўчастак 40 сотак.Т. (8-029) 5609402.*

• Садовы ўчастак, жылы домік. Нядорага. КААП «Брыльянт», каля вёскі, чыгуначны прыпынак Ласі. Т. (8-033) 6407558.*

### НАЙМУ

• 1- або 2-пакаёвую кватэру на працяглы тэрмін. Т. (8-029) 8765693.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада. Жывая музыка. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

• Бусы 1,5 т. ЧУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Фура 20 т. ЧУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэякапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катароў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Вырабы з металу любой складанасці. Вароты, агароджы, лесвіцы, казыркі, поручні, коўка і інш. І.П. Стрыга Ю.С. УНП 692011543. Т. (8-029) 6868755.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Шротаструменная (дробеструйная) апрацоўка металу. ЧУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Наносім фота любімых на майку альбо кубак, 9 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442 Т. (8-029) 6631595.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт тэлевізараў. Вілейка, Вілейскі р-н. ІП Петрашэвіч А.В. УНП 691182709. Т. (8-029) 5714165.

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА**. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. ІП Сергіенка Л.У. УНП 591805547. Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Гіпсакардон сценавы 2,5х1,2. 10,5 лістоў – 31,5 м. кв. Танна. Т. (8-029) 5771112.

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Такарны станок па метале, невялікі. Т. (8-029) 5702953.

## АБ ЗМЯНЕННЯХ У РАЗЛІКАХ ЗА ГАЗ

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29.06.2018 №510 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь» унесеныя змяненні і дапаўненні ў пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 12 чэрвеня 2014 года №571 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку разлікаў і ўнясення платы за жыллёва-камунальныя паслугі і платы за карыстанне жылымі памяшканнямі дзяржаўнага жыллёвага фонду, унясенні змяненняў і дапаўненняў у пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і прызнанні пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і іх структурных элементаў», якія страцілі сілу, у наступнай частцы:

**1.** Ад 01.07.2018 года налічэнне платы за паслугі газазабеспячэння, забеспячэння звадкаваным вуглевадародным газам ад індывідуальнай балоннай установкі плацельшчыкам жыллёва-камунальных паслуг, якія з'яўляюцца непрацуючымі пенсіянерамі і дасягнулі агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту, асобам, якія маюць права на льготы па аплаце за паслугі газазабеспячэння і забеспячэння звадкаваным вуглевадародным газам ад індывідуальных балонных установак у адпаведнасці з артыкулам 16 Закона Рэспублікі Беларусь ад 14 чэрвеня 2007 года «Аб дзяржаўных сацыяльных ільготах, правах і гарантыях для асобных катэгорый грамадзян» (далей па тэксце - Закон аб ільготах), або інвалідам III групы, зарэгістраваных па месцы знаходжання ў аднакватэрных жылых дамах, кватэрах шматкватэрных або блакіраваных жылых дамоў, у садовых доміках (дачах), робіцца па субсідзіраваным тарыфе для насельніцтва ў дачыненні да двух жылых памяшканняў: па адрасе абавязковай рэгістрацыі па месцы жыхарства і рэгістрацыі па месцы знаходжання (па іх пісьмовай заяве), у тым ліку і садовых доміках.

Для гэтага неабходна звярнуцца ў газазабеспячэнскую арганізацыю, напісаць заяву і падаць дакументы аб рэгістрацыі па месцы знаходжання. Дадаткова неабходна падаць:

- для непрацуючых пенсіянераў, якія дасягнулі агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту, – пенсійнае пасведчанне і працоўную кніжку альбо іншы дакумент, які пацвярджае, што пенсіянер не ажыццяўляе працоўную дзейнасць;
- для асоб, якія маюць права на льготы, або інвалідаў III групы – пасведчанне інваліда.

**2.** Гэтак жа з 01.07.2018 года льготы па аплаце за газазабеспячэнне, забеспячэнне звадкаваным вуглевадародным газам ад індывідуальных балонных або рэзервуарных установак могуць давацца або па месцы жыхарства альбо месцы знаходжання на выбар плацельшчыка жыллёва-камунальных паслуг і (або) іншага грамадзяніна, які мае права на льготы (у адпаведнасці з Законам аб ільготах).

Для афармлення (рэгістрацыі пры першасным звароце) указаных ільгот грамадзянам неабходна звярнуцца ў газазабеспячэнскую арганізацыю па месцы рэгістрацыі. Ільготы даюцца грамадзянам з дня падачы імі заявы.

**ВУ «Маладзечнагаз».**

УНП 100008077



Фота Udec.ru

Руды сасновы пілільшчык пры значнай колькасці можа прывесці да гібелі хваёвых лясоў.

# Ад авіябарацьбы з пілільшчыкам адмовіліся

## На Астравеччыне правялі наземную апрацоўку маладых дрэў спецыяльнымі аэразолямі

АСТРАВЕЦ

**Ад авіяцыйнай апрацоўкі лясоў Астравеччыны супраць рудога сасновага пілільшчыка спецыялісты вырашылі адмовіцца.**

### Паведамілі, але не праводзілі

Нагадаем, каб не дапусціць гібелі лясоў у Астравецкім раёне, мясцовы доследны лясгас у першай дэкадзе чэрвеня планаваў правесці авіяцыйную апрацоўку ў Гервяцкім і Міхалішскім лясніцтвах супраць рудога сасновага пілільшчыка – вусеня, які шкодзіць сасну.

Тады ў лягсасе карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» распавялі, што калі пілільшчык шкодзіць дрэвы адзін сезон, то яны могуць выжыць. Калі ж шкоднік робіць сваю справу некалькі сезонаў, як на Астравеччыне, дрэвы могуць загінуць.

Пра авіяцыйную апрацоўку паведамілі на сайце лясніцтва, у мясцовых газетах. Жыхарам забаранялі на працягу сямі сутак наведваць лес на ўказаных тэрыторыях, збіраць там грыбы і ягады, пасвіць свойскую жывёлу. Трэба было абмежаваць і лёт пчол на 24-48 гадзін.

### Шкоднікі пачалі гінуць самі

Аднак, па словах **Віктара Ляха**, галоўнага ляснічага Астравецкага доследнага лягсаса, запланаваную барацьбу са шкоднікамі з паветра палічылі непатрэбнай, бо рудыя сасновыя пілільшчыкі пачалі масава гінуць самі ад натуральных фактараў, а менавіта ад хвароб, выкліканых бактэрыямі.

> **– У канцы мая прайшлі невялікія дажджы, і гэта неспрыяльна паўплывала на шкоднікаў, – распавёў галоўны ляснічы. – Вялікая частка шкоднікаў загінула, меншая схавалася ў лясной посціцы, таму ў авіяцыйнай апрацоўцы мы ўжо не бачылі неабходнасці.**

Па словах Віктара Ляха, пілільшчык з'явіўся на Астравеччыне летась. Атрымліваецца, што тут ён шкодзіць дрэвы ўжо другі год. Ляснічы адзначыў, што менавіта на другі год і прыпадае звычайна развіццё хвароб у гэтага шкодніка.

### Выкарысталі больш небяспечную і больш дакладную атруту

У канцы мая – пачатку чэрвеня спецыялісты Астравецкага доследнага лягсаса апрацавалі нізкія маладыя дрэвы спецыяльнымі прэпаратамі з аэразоляў.

– З аднаго боку, клас небяспекі ў прэпарата для наземнай апрацоўкі больш высокі, чым «Лепітацыд-СК», прызначаны для авіяцыі, – распавядае Віктар Лях. – Але наземная апрацоўка больш мэтанакіраваная. Прэпарат трапляе дакладна ў патрэбнае месца, не разносіцца ветрам усюды, пакуль ляціць з самалёта і паражае пілільшчыка.

> **Шкоднікі гінулі ад судакранання з хімічным ядам і ад таго, што атрута трапляла ў кішэчнік.**

### Вяскоўцы да забаронаў лясніцтва прыслухаліся

Усе забароны для насельніцтва захоўваліся і падчас наземнай апрацоўкі, кажа Віктар Лях. Пры ўездзе ў лес ставілі знакі пра тое, што тут працуюць з хімічным рэчывам. За гэты час ніякіх пытанняў і скаргаў у жыхароў навакольных вёсак не было.

Не сустрэлі і парушальнікаў, якія б хадзілі ў лясы падчас апрацоўкі. Да таго ж мерапрыемствы часткова супалі з забаронай наведвання лясоў на Астравеччыне, уведзенай 1 чэрвеня.

Ці трэба будзе паўтараць апрацоўку, пакуль дакладна сказаць нельга. У канцы ліпеня – пачатку чэрвеня супрацоўнікі лягсаса праманіторацць лес і тады прымуць рашэнне.

> **– У апошнія некалькі дзён устанавілася дажджлівае надвор'е, а яго рудыя сасновыя пілільшчыкі, як і многія іншыя шкоднікі, не пераносяць, – кажа Віктар Лях. – Хутчэй за ўсе, большасць шкоднікаў загіне ад вільгаці.**

Аксана ЯРАШОНАК.

# Чаму папяровыя кубкі і біяраскладальныя пакеты шкодныя для прыроды?

**Многія з нас сутыкаліся з сітуацыяй, калі купляеш каву ці квас і спецыяльна выбіраеш папяровы кубачак. І думаеш пры гэтым: «Я малайчына, клапачуся пра экалогію, выбіраю паперу, якая раскладаецца, а не нейкі там пластык». А пасля заходзіш у краму, выбіраеш пакет з пазнакай «біяраскладальны» і падсвядома ставіш сабе плюсік – зноў паклапаціўся аб прыродзе!**

Эколагі ў сваю чаргу перакананыя: гэтыя прадметы ўсё роўна небяспечныя для навакольнага асяроддзя. Чаму гэта так і якія альтэрнатывы ёсць для аднаразовых рэчаў, распавядае **Марыя Сума,** супрацоўніца праграмы па экалагічна сяброўскім ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

### Найлепшая альтэрнатыва папяровым кубкам – тэрмас або тэрмакубак

– Давайце разважаць лагічна, – кажа Марыя Сума. – Ці змогуць папера і кардон у чыстым выглядзе ўтрымліваць у сабе ваду і не прамакаць? Відавочна, што не. Папяровыя кубкі не прамакаюць дзякуючы полістыролавай плёнцы або LDPE-пакрыццю.

Прыглядзіцеся да звычайнага папяровага кубка, і вы пабачыце тонкі бліскучы слой пластыку. Ім пакрываюць кубкі знутры, а часам і звонку.

Самі па сабе і плёнка, і папера – гэта матэрыялы, якія можна перапрацаваць. Але ж якім чынам аддзяліць адно ад другога? Зрабіць гэта на практыцы магчыма, але такі працэс вельмі складаны. Арганізацыі па перапрацоўцы смецця гэтым не займаюцца. Таму кожны папяровы кубак, які вы пасля выкарыстання выкінеце ў макулатуру, усё роўна трапіць на палігон, дзе будзе раскладацца разам з іншым смеццем.

– Да таго ж мы часта няправільна чытаем тыя сімвалы, якія бачым на ўпакоўцы, – дадае Марыя. – Калі мы бачым на кубку трохкутнік з кругавымі стрэлкамі – знак таго, што рэч можна перапрацаваць, – то супакойваемся. Так, гэта знак таго, што тэхнічна рэч паддаецца перапрацоўцы. Але гэта не значыць, хто нехта будзе на практыцы раздзяляць слаі паперы і пластыку, каб перапрацаваць іх асобна.

Што тычацца аднаразовых пластыкавых кубкаў, то тут спецыялісты маюць свой рэйтынг розных відаў пластыку.

**Найгоршы варыянт і для здароўя чалавека, і для экалогіі – пластык з пазнакай «ПВХ», «PVC», «V» ці лічбай 3 у трохкутніку. Гэтыя матэрыялы таксічныя для арганізма, а таксама не перапрацоўваюцца.**

Яшчэ адзін кепскі варыянт – пластык з пазнакай «ПС», «PS» альбо лічбай 6. У посуд з такога пластыку нельга наліваць гарачае. Да таго ж у Беларусі гэты матэрыял нельга перапрацаваць.

Крыху лепей спецыялісты ацэньваюць пластык з «ПЭТ», «PET» «PETE» і лічбай 1. З яго робяць і кубкі, і бутэлькі. Такі матэрыял можна здаць на перапрацоўку, выкінуўшы чыстую тару ў кантэйнер для пластыку. Але бутэлькі з гэтага пластыку нельга выкарыстоўваць шматкроць.

Адносна бяспечным лічыцца пластык з пазнакамі «ПП», «PP» і лічбай 5. Посуд з гэтага матэрыялу прыдатны для шматразовага выкарыстання.

– Але памятайце, што адзіным сапраўды экалагічным рашэннем з'яўляецца звычайны кубак, – робіць выснову Марыя Сума. – Цяпер у крамах можна знайсці самыя розныя варыянты – ад тэрмакубка да складнога, які зручна насіць з сабой. Ніхто не забараняе карыстацца сваім кубкам, калі вы прыходзіце на вечарынку, пікнік або проста купляеце ў кавярні каву на вынас.

ecoidea.by

**Маркіроўка біяраскладальнага пластыку**

OXO-BIODEGRADABLE & RECYCLABLE PLASTIC WRAP

7

| «Compostable» Можна кампаставаць | «Biodegradable» Біяраскладальны | «Other» Іншыя |
|---|---|---|
| Раскладаецца ў спецыяльных умовах кампаставання (прамысловага або хатняга) | Можа раскладацца ў прыродзе, але не заўсёды вядома, ці бяспечны ён для прыроды<br>Магчыма, оксапластык, які распадаецца на мікрапластык | Усе новыя і малавывучаныя пластыкі<br>Гэта можа быць біяраскладальны пластык, а можа быць і той, які не перапрацоўваецца |

### Біяраскладальныя пакеты: раскладаюцца, але ў спецыяльных умовах

Кожны з нас бачыў у сеткавых крамах аднаразовыя пакеты з надпісам «біяраскладальны» і яшчэ – з малюнкам зялёнага лісціка, каб узмацніць эфект экалагічнасці. Ці значыць гэта, што мы можам браць за раз хоць дзесяць пакетаў і пасля бестурботна выкідаць іх у агульнае смецце?

**– Давайце спачатку разбяромся, што значыць гэты тэрмін – біяраскладальны пластык, – раіць Марыя Сума. – Пад ім мы разумеем палімеры, якія ўтвораныя з расліннай сыравіны і якія могуць раскладацца да дыяксіду вугляроду і вады. Часцей за ўсё ў якасці расліннай сыравіны выкарыстоўваецца кукуруза, пшаніца ці цукровы трыснёг. Дадаюцца да іх і кампаненты, утвораныя шляхам хімічнага сінтэзу.**

Нават калі пакет складаецца ў большасці сваёй з расліннай сыравіны, то яму патрэбныя спецыяльныя ўмовы для таго, каб сапраўды раскласціся без шкоды для прыроды. Патрэбныя павышаная тэмпература і вільгаць. Адсюль узнікае пытанне: ці ёсць такія спрыяльныя ўмовы ў нашых дамашніх сметніцах і на палігоне? Відавочна, што не.

**Гэта значыць, што некаторыя біяраскладальныя пакеты могуць сапраўды распасціся натуральным чынам, але толькі ў тым выпадку, калі іх адмыслова кампаставаць. У Беларусі ж няма прадпрыемства, якое б займалася кампаставаннем у прамысловых маштабах.**

– Беларускія сеткавыя крамы ў большасці сваёй у якасці біяраскладальных пакетаў выкарыстоўваюць оксіраскладальныя, – працягвае эксперт. – У іх саставе ёсць солі пераходных металаў – кобальту, нікелю, жалеза. Таму падчас раскладання ўтвараецца нябачны для нашых вачэй мікрапластык.

Фактычна прадавец нам не хлусіць: пакеты сапраўды раскладаюцца. Але ж тыя фрагменты, на якія яны раскладаюцца, застаюцца небяспечнымі для навакольнага асяроддзя.

Праблема мікрапластыку цягам апошніх гадоў набірае абароты. Яго дробныя часцінкі знаходзяць нават у азёрах, не злучаных з рэкамі і марамі. Летась **Аляксандр Дарашэвіч**, гаспадар аграсядзібы ў Астравецкім раёне, здаваў на даследаванне пробы вады з возера Губяза. Часцінкі мікрапластыку знайшлі і там. Адпаведна, яны трапляюць і ў ваду, якую мы п'ём, і ў рыбу, якую мы ядзім. Многія навукоўцы звязваюць рост ліку хвароб за апошнія гады менавіта з тым, што ў наш арганізм трапляе зашмат мікрапластыку.

### Папяровыя пакеты – кепская альтэрнатыва

– Замяніць пластыкавыя пакеты папяровымі не заўсёды зручна, бо яны лёгка рвуцца і прамакаюць, – кажа Марыя Сума. – На іх выраб патрабуюцца вялікія затраты электраэнергіі і вады. А ў выніку вытворчасці ўтвараецца вялікі аб'ём таксічных сцёкавых водаў. Да таго ж папяровыя пакеты з рознымі ўстаўкамі (бліскаўкамі, фальгой, пластыкавымі элементамі) ужо ніхто не перапрацуе.

У справе ўпакоўкі эколагі цвёрда трымаюцца адной і той жа парады – выкарыстоўваць шматразовыя рэчы.

**– Палатняныя торбы і мяшочкі – найлепшая альтэрнатыва і пластыку, і паперы, – падсумоўвае эксперт. – Яны праслужаць вам вельмі доўга, а пасля таго, як патрапяць на сметніцу, раскладуцца без шкоды для навакольнага асяроддзя. А калі ў вас безвыходная сітуацыя і ўсё ж давялося набыць пластыкавы пакет, то карыстайцеся ім як мага даўжэй.**

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Юшка-фэст правялі 14 ліпеня каля Вілейскага вадасховішча

ВІЛЕЙКА

**Фестываль пачаўся а 13-й гадзіне.**

Траплялі туды па-рознаму. Хто на аўто – пакідаў яго ля дарогі. Гарадскія аўтобусы вырашылі спыняць далёка ад вадасховішча, каб пазбегнуць аварый. Таму пасажыры ішлі пешшу.

По горадзе людзей везлі дадатковыя аўтобусы. Адразу станавілася зразумела – людзі едуць «на свята!»

Сёлета яно мела экалагічны накірунак – арганізавалі раздзельны збор смецця. На фэсце правялі велапарад. Людзі, што наведалі вадасховішча на роварах і ў касцюме, атрымалі прыз. Яны не захацелі забруджваць паветра вуглякіслым газам і прыязджаць на машыне.

Падчас фэсту 11 сельвыканкамаў прадставілі свае падвор'і.

На свяце цешыліся і дзеці, і дарослыя. Для першых была адкрытая «Нянька-зона», працавала шмат атракцыёнаў. Гандлёвыя пункты з цікавосткамі, магчымасць зрабіць аквагрым і скарыстацца фарбамі «Холі» прыцягвалі ўвагу малых.

Дзіцячае дэфіле – конкурс капелюшоў – стала адметнасцю свята. Арыгінальныя вырабы накшталт убору з пластыкавых кубачкаў паднялі настрой усім.

Дарослым прапанавалі ўвесь дзень частавацца бясплатным квасам, калі яны прыйшлі са сваім кубкам. Бо вырашылі не карыстацца на фестывалі пластыкавым посудам. Бясплатна налівалі ваду.

Фестываль «стрэліў» водным фрыстайлам. Людзі на гідрацыклах прыцягнулі да берага шмат цікаўных.

На працягу фэсту адбылася водная феерыя ў выкананні супрацоўнікаў Вілейскага РАНС. Яна доўжылася некалькі хвілін.

Наведнікі таксама маглі паесці пельменяў у конкурсе на час.

Увечары над вадасховішчам пайшоў дождж, але многія засталіся святкаваць далей. Яны ўбачылі конкурс сярод мужчын на лепшую бараду, фаер-шоу і салют, якім завяршыўся фестываль.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**




Наведнікаў свята частавалі квасам.



Варыцца юшка.



На фэсце рабілі аквагрым.



Добры настрой быў гарантаваны.




Арганізавалі раздзельны збор смецця.

# Гісторыя храма маёй душы

## Прыгадаем першыя храмы ў мястэчках на Маладзечаншчыне

МАЛАДЗЕЧНА

**У сваім эсэ хацелася б паказаць рэлігійнае жыццё маленькага адрэзка нашай краіны, што калісьці ляжаў на вялікай гандлёва-эканамічнай артэрыі, якая злучала Менск з Вільняй.**



Сёння побач з царквой у Беніцы жыве бусел.

### Лебедзева: цуд, які дапамагаў папу і ксяндзу

Лебедзева-Маркава-Беніца... Ці не першай бажніцай у гэтых мясцінах быў драўляны касцёл «Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі», пабудаваны 19 ліпеня 1476 года ў Лебедзеве пры падтрымцы ўладара мястэчка **Аляксея Гальшанскага**. Больш за трыста гадоў прастаяў касцёл, пакуль у 1808 годзе не згарэў. І толькі ў 1847 (ці ў іншых крыніцах у 1856) па ініцыятыве мясцовага ксяндза **Навіцкага** пабудавалі новы храм, але захавалі старую назву.

Адчула мястэчка і пратэстанцкую плынь, якая была ў пэўны перыяд нацыянальнай верай магнацкага і шляхецкага саслоўяў. Ад 7 мая 1558 года мястэчка набыў **Мікалай Радзівіл Чорны**, кальвініст, магнат. Хутчэй за ўсё, пад яго патронам у мястэчку збудавалі мураваны кальвінісцкі храм.

Што да першай у Лебедзеве царквы, дык тут увогуле таямніца. Ні пад 1638, ні пад 1861 у дакументах няма ніводнага ўпаміну аб ёй. Хаця ўжо з 16 стагоддзя Лебедзева з'яўлялася мястэчкам, а якое можа быць мястэчка без бажніцы?

Хутчэй за ўсё, па гвалтоўным далучэнні Вялікага Княства Літоўскага да Расейскай імперыі мясцовы касцёл быў скасаваны і пераўтвораны ў царкву. А пры пабудове ў 1869 годзе новай, Крыжаўздвіжанскай, – «старую» зачынілі. Таму пры перапісе канца 19 стагоддзя і ўпамінаюцца дзве царквы.

Але галоўны доказ гэтай тэорыі – артыкул за 1907 год у «Нашай ніве», якую, дарэчы, шмат хто з месточкоўцаў выпісваў: *«У вярсьце ад нашага мястэчка цячэ невялікая рэчка праз маёнтак пана Саковіча. Даўно ўжо ў народзе ходзяць слухі, бытцам у той рэчцы калісьці зьявіўся цудоўны Пан Езус. З году ў год на каталіцкае сьвята «Сэрца Пана Езуса» каля гэтага цуда збіраюцца тысячы простага народу. Тамака людзі молюцца, мыюцца вадой з тае рэчкі, ды нясуць у касьцёл ахвяры: грошы, шмат яек, лёну, воўны і іншага дабра. Зьбіраецца тут такім парадкам больш як на тры сотні рублёў. Поп мясцовы пазайздросьціў ксяндзу і зрабіў у той самы дзень праваслаўнае сьвята. І ён, як дагэтуль ксёндз, угаварвае народ, каб маліўся каля той рэчкі з цудам, але ахвяры прыносілі не ў касьцёл, а ў цэркву. Хоць ніколі не было чутно, каб каму гэты цуд як-небудзь дапамог, але ўсе ведаюць адно, што ксяндзу і папу ён такі добра памагае...»*

### Маркава: гаспадары з Нясвіжа не дбалі пра касцёл у Маркаве

Мястэчка вядомае ад 1415 года. Маркаўская пушча была багатай на рознаю дзічыну. Адсюль сплаўлялі лес у Еўропу ад 1525 года.

На пачатку 17 стагоддзя тут дзейнічаў касцёл, што крыху пазнавата для 16 стагоддзя – крыху пазнавата для такога мястэчка.

Але да другой паловы 15 стагоддзя гэта былі ўладанні Радзівілаў, а іх, жыхароў Нясвіжа, не асабліва цікавіла, ёсць бажніца ў Маркаве ці не.

Другі касцёл пабудавалі дзякуючы інфлянцкаму кашталяну **Яну Шчыту** і яго жонцы ў 1740 годзе. Пры касцёле мелася школа, ці не першая ў ваколіцах.

### Беніца: містычны партрэт з грашыма

У дахрысціянскія часы ў Беніцы, хутчэй за ўсё, былі паганскія капішчы. Гэта пацвярджае легенда пра царкву, якую з-за нейкай людской правіннасці, засыпаў пан зямлёй разам з людзьмі, а таксама археалагічныя знаходкі. Знойдзеныя каменныя сякеры сведчаць пра тое, што людзі жылі тут даўно і павінны былі недзе маліцца.

Што да хрысціянства, то ўжо ў 1582 годзе ў Беніцы стаіць царква, самая першая сярод суседніх мястэчак, з 1596 года ўніяцкая, пабудаваная ў гонар святога «Гальяша»-прарока.

Багатую гісторыю мае Троіцкі касцёл. Аб абставінах яго заснавання захавалася легенда. Згодна з ёй, Міхал пабудаваў касцёл на тым месцы, дзе спыніліся коні, што панеслі яго дачку.

У 1703 годзе ў Беніцы з'явіўся гэты храм. Асвячаў Троіцкі касцёл віленскі біскуп **Бжастоўскі** ў 1704-м.

Пад канец жыцця Коцел замовіў намаляваць свой партрэт у натуральную велічыню. На партрэце ён стаяў ля стала, над якім быў адчынены куфэрак з грашыма ў мяшках. На мяшках – пазначаныя сумы грошай. Па загадзе партрэт павінны быў вісець у скляпенні касцёла ля самай труны, завешаны тканінай, а ў труне ляжаць пазначаная сума, якую можна ўзяць толькі на рамонт касцёла.

Праз колькі дзясяткаў год пасля смерці Коцела праламаўся дах, але не ў касцёле, а ў прыбудаваным да яго кляштары. Бернардыны з дазволу ксяндза **Чапкоўскага** вырашылі ўзяць грошы, адкладзеныя фундатарам. Яны пачалі адчыняць труну. Ззаду стаяў Чапкоўскі, молячыся і акрапляючы іх святой вадой. Але як толькі адчынілі труну, адразу згасла святло ў лямпах.

А каменная труна сама зачынілася, ды так, што трэснула, вельмі напалохаўшы прысутных. Доўга праляжалі браты-бернардыны на падлозе, гучна чытаючы малітву, пакуль вырашылі сысці. Пасля прах Міхала ніхто турбаваць не адважыўся.

Партрэт вісеў да 1851 года, пакуль Троіцкі касцёл не перабудавалі ў царкву, зачыніўшы і пазней знішчыўшы кляштар. І няшмат хто ведае, што пры кляштары былі ўласны архіў, бібліятэка, мастацкая галерэя, парк, багаты сад, сажалкі з каналамі, а пры двары Коцелаў працаваў філосаф Мотвіл. Сюды не раз заязджалі **Міхал Агінскі**, **Тамаш Зан**, **Станіслаў Манюшка**, **Напалеон Орда**, **Уладзіслаў Сыракомля**, **Францішак Багушэвіч**...

Пасля скасавання касцёла будынак выконваў функцыі царквы, пакуль насупраць, у 1886 годзе, не пабудавалі новую царкву.

Пабудавалі цэрквы і ў Вяжуцях, Годкавічах, Заскевічах... Ды прастаялі яны нядоўга: да пяцідзясятых гадоў 20 стагоддзя, пакуль іх не разабралі на бярвенні для пабудовы калгасных хлявоў, а мураваныя перарабілі пад склады.

**P.S. Гэта зямля, як і ўвогуле Вялікае Княства, была па-свойму шматканфесійна багатая, што амаль ужо забытае. Забытая і прысутнасць татараў у Беніцы, былой ускраіны вялікага татарскага расселення. Няшмат хто ўспамінае аб прысутнасці ва ўсіх мястэчках яўрэяў. Як след пасля Другой сусветнай засталіся толькі яўрэйскія могілкі, няма каму хадзіць у беніцкі касцёл...**

Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.
Фота аўтара.

● КАЛЯНДАР

**24 ЛІПЕНЯ**

**120 гадоў** з дня нараджэння **Рыгора Кобеца** (сапр. Сандыга Міхаіл Мусіевіч) (1898 – 1990), пісьменніка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**23 ЛІПЕНЯ**

**1943.** 75 гадоў з дня нараджэння **Артура Цяжкага**, беларускага пісьменніка. Нарадзіўся ў вёсцы Лылойці Смаргонскага раёна. Пасля заканчэння Свірскай СШ Мядзельскага раёна працаваў у смаргонскай раённай газеце «Светлы шлях» літсупрацоўнікам. Служыў у Савецкай Арміі. Ад 1969 года – карэспандэнт «Чырвонай змены», ад 1971 – уласны карэспандэнт гэтай газеты па Брэсцкай вобласці, у 1972 – 1975 гг. і ў 1978-м – карэспандэнт брэсцкай абласной газеты «Заря». У 1974-м скончыў завочнае аддзяленне журналістыкі БДУ. У 1975 – 1977 гг. – карэспандэнт раённай газеты «Астравецкая праўда», з верасня 1978 г. – адказны сакратар Гродзенскага абласнога таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, у 1979 г. – карэспандэнт газеты «Голас Радзімы», са снежня 1979 г. – карэспандэнт газеты «Знамя юности», у 1981 – 1984 гг. – рэдактар Гродзенскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці. Аўтар зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Сустрэча пасля вясны» (1980), «Пара блакітных дажджоў» (1982), «Дзе мой дом?..» (1986). Напісаў ён няшмат, але выдадзена ўсяго некалькі кніг, дзве выйшлі пры жыцці, дзве – пасля яго смерці. Памёр 5 красавіка 1984 года.

**26 ЛІПЕНЯ**

**100 гадоў** з дня нараджэння **Івана Грамовіча** (1918 – 1986), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі. Скончыў літаратурна-лінгвістычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Служыў у Савецкай Арміі. Друкаваў нарысы ў франтавых газетах. Працаваў загадчыкам аддзела, адказным сакратаром часопіса «Беларусь», адказным сакратаром часопіса, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць». Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Быў начальнікам сцэнарнага аддзела кінастудыі «Беларусьфільм», літкансультантам СП БССР (1958-1969), намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык».

**1993.** 25 гадоў назад рашэннем Нацыянальнага банка ў краіне спыненае абарачэнне савецкіх грошай і ўведзеная нацыянальная валюта – беларускі рубель.

Марыя БЕРАСНЕВА.

## Ракаўскі яслі-сад адзначылі ў вобласці за спартыўную пляцоўку

**ВАЛОЖЫН**

Падвялі вынікі трэцяга абласнога фестывалю-конкурсу ўстаноў дашкольнай адукацыі «Свет дзяцінства».

Мэта фестывалю-конкурсу – стварэнне аптымальных умоў знаходжання выхаванцаў у дзіцячым садку і ўдасканаленне якасці адукацыйнага працэсу, паведамляе Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі.

Конкурс праводзілі па дзвюх намінацыях. У адной з іх адзначылі ўдзельнікаў з Ракава. У намінацыі «Тэрыторыя дзяцінства: спартыўная пляцоўка» дыпломам трэцяй ступені ўдастоены Ракаўскі яслі-сад «Сонейка» Валожынскага раёна.

**Паводле Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі.**

## Пабудавалі магазіны і садок, чакаюць адкрыцця фізкультурнага комплексу

**АСТРАВЕЦ**

У інфармацыйным цэнтры Беларускай АЭС разгледзелі пытанні будаўніцтва аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры і жылля.

На 2018 год у рамках дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы на будаўніцтва сацыяльных аб'ектаў выдзелілі больш за сто мільёнаў рублёў. Яшчэ пяць мільёнаў паводле абласной інвестыцыйнай праграмы горад атрымаў на будаўніцтва стадыёна.

Сёлета ў Астраўцы ўжо здалі ў эксплуатацыю два гандлёвыя аб'екты, хутка адчыняць другі дзіцячы садок і пажарнае дэпо ў мікраараёне №2, фізкультурна-аздараўленчы комплекс.

**Паводле сайта Астравецкага райвыканкама.**

## Супрацоўнікі Вілейскага лясгаса перамаглі ў прафесійных спаборніцтвах

**ВІЛЕЙКА**

7-8 ліпеня ў Гродзенскім раёне правялі адкрыты рэспубліканскі чэмпіянат «Лесаруб-2018». У ім удзельнічалі прадстаўнікі Вілейшчыны.

**Валеры Дуровіч**, ляснік Вілейскага доследна-вытворчага лясніцтва, чэмпіён свету, уваходзіў у склад зборнай Рэспублікі Беларусь №1, якая заняла другое агульнакамандное месца ў падгрупе «А».

**Мікалай Ярошык**, вальшчык лесу Куранецкага лясніцтва, быў у складзе зборнай Рэспублікі Беларусь №2. Каманда заняла прызавое месца ў падгрупе «А».

У рэспубліканскіх спаборніцтвах удзельнічаў і яшчэ адзін работнік Вілейскага лясгаса – **Сяргей Гайчук**. Ён працуе майстарам лесу ў Ільянскім лясніцтве. Мужчына ўваходзіў у склад каманды Мінскай вобласці і сярод юніёраў у асабовым першынстве ў групе «Б» заваяваў першае месца, набраўшы 1482 балы па суме пяці практыкаванняў.

Ужо ў жніўні лепшыя вальшчыкі краіны прадстаўляць Рэспубліку Беларусь на Сусветным чэмпіянаце вальшчыкаў лесу, які адбудзецца ў Нарвегіі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Археолагі, што даследавалі Крэва, распавялі пра свае знаходкі

**СМАРГОНЬ**

Ад 4 ліпеня 2018 года дзясяткі валанцёраў з усёй Беларусі працуюць у Крэве на археалагічных раскопах на тэрыторыі мясцовага Гарадзішча, якія ладзяцца мясцовым дабрачынным фондам «Крэўскі замак» і Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук.

Перад даследчыкамі стаіць пытанне, першапачатковая Літва была балцкай ці славянскай? І раскопы ў Крэве павінны паспрыяць пошукам адказу. Сярод апошніх знаходак – металічны пярсцёнак, час вырабу якога яшчэ трэба высветліць, рэшткі ганчарных вырабаў.

Пасля палявых даследаванняў ля вячэрняга вогнішча валанцёры бавяць час разам з беларускімі музыкамі, паэтамі і краязнаўцамі, удзельнічаюць у экскурсіях па Крэве і мясцовасці. У Крэве ўжо выступілі **Андрэй Хадановіч, Аляксей Жбанаў, Андрусь Такінданг, Раман Яраш, Таццяна Грыневіч**, капэла «На таку» з танцамі пад гармонік.

Краязнаўца **Аляксандр Камінскі** правёў правільным шляхам па Крэве, **Аляксей Друпаў** падзяліўся таемнымі сцяжынкамі Першай сусветнай у мястэчку.

Валанцёры завіталі ў госці да мясцовага мастака-кераміста **Сяргея Бандарэнкі** ў вёску Чухны: паглядзелі на макет Крэўскага замка ў маштабе 1:10, зрабілі дэкаратыўныя гліняныя «пагонькі», паблукалі па новым каменным лабірынце.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Сітуацыя з шаленствам застаецца напружанай. Як засцерагчыся

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пра тое, як засцерагчыся ад небяспечнай хваробы, расказала намеснік начальніка Маладзечанскай раённай ветэрынарнай станцыі Тамара Рагуновіч.**



Фота tinydog.ru.

Летась шаленства знайшлі ў бадзяжнага ката ў цэнтры Маладзечна.

У параўнанні з мінулым годам, узровень шаленства сярод жывёл на Маладзечаншчыне застаецца высокім.

Шаленства мае пікі, калі колькасць хворых павялічваецца, і перыяды спаду. Летась быў пік, зарэгістравалі 40 станоўчых выпадкаў за ўвесь 2017 год. Пераважна гэта былі дзікія жывёлы.

За гэты год ужо ёсць 22 станоўчыя выпадкі. Сярод іх 12 ліс, два ласі. Знаходзяць хворых дамашніх жывёл – сабак і катоў. Летась на шаленства захварэў гарадскі бадзяжны кот, які знаходзіўся ў цэнтры Маладзечна.

### Ціхае шаленства больш небяспечнае

Шаленства дамашніх жывёл больш небяспечнае – яны бліжэй да чалавека. Хвароба можа праяўляцца ў буйной і ціхай форме. Пры апошнім тыпе жывёла застаецца ласкавай, лашчыцца да гаспадара, ліжа рукі. На руках звычайна бываюць драпінкі і трэшчынкі, якія мы нават не заўважаем, жывёла лізнула – і заразіла.

– Асноўны шлях заражэння праз сліну і ўкусы, вірус знаходзіцца ў сліне хворай жывёлы, – расказвае эксперт. – Пры тым, што ў крыві, мачы і малацэ вірус можа адсутнічаць.

На Маладзечаншчыне такія выпадкі здараюцца радзей. Звычайна хворыя на шаленства жывёлы паводзяць сябе агрэсіўна – кідаюцца і кусаюцца.

– Пасля такога людзі павінны звярнуцца ў хірургічнае аддзяленне, дзе пры неабходнасці правядуць курс прышчэпак супраць хваробы, – дадае Рагуновіч.

Здараецца, хваробу падхопліваюць свойскія жывёлы. Мяркуецца, што жывёліну могуць укусіць, калі тая пасецца на полі, але гэта толькі меркаванне, даведадца дакладна, як жывёла атрымала хваробу, няпроста.

Інкубацыйны перыяд можа заняць 21 дзень, а можа, і паўгода. Усё залежыць ад таго, куды ўкусілі. З кароткім інкубацыйным перыядам захворваюць людзі, укушаныя ў галаву, шыю, рукі, што тлумачыцца багаццем нервовых канчаткаў і блізкасцю іх да галаўнога мозгу.

### Як абараніць сябе і сваю жывёлу

Лепшы спосаб прадухіліць заражэнне свойскай і дамашняй жывёлы – прышчапіць. У прыватным сектары жывёл варта трымаць у вальеры, на прывязі. Калі вы ўбачылі ў населеным пункце днём дзікую жывёліну – хутчэй за ўсё, у яе шаленства. Да людзей у светлы час дзікая жывёла ў нармальным стане не пойдзе. З шаленствам жа яны пачынаюць паводзіць сябе па-іншаму.

Аб усіх падазрэннях у захворванні на шаленства дамашніх і дзікіх жывёл неабходна неадкладна паведамляць спецыялістам дзяржаўнай ветэрынарнай службы па адрасе: Маладзечанскі раён, в. Мянюткі, д. 1-в, Маладзечанская райветстанцыя, тэл. **500-409.** або г. Маладзечна, вул. Грамадоўская, 23, гарадская ветэрынарная станцыя, тэл.: **52-32-26, 52-32-28.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Рэканструяваць пункт пропуску «Каменны Лог» плануюць пачаць у 2019 годзе

**АШМЯНЫ**

Пра тое, што налета пачнуць рэканструяваць «Каменны Лог», паведаміў БелТА старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта **Юры Сянько** на пасяджэнні грамадска-кансультатыўнага савета пры Мытным камітэце.

– Мытныя органы Беларусі вядуць актыўную работу па паляпшэнні ўмоў перамяшчэння тавараў і пасажырапатоку праз мяжу. Напрыклад, плануюцца інфраструктурныя змены ў пунктах пропуску, размешчаных на беларуска-літоўскай мяжы. Рэканструкцыю пункта пропуску «Каменны Лог» плануецца пачаць у 2019 годзе.

Асноўная мэта рэканструкцыі – трохразовае павелічэнне прапускной здольнасці да шасці тысяч транспартных сродкаў у суткі: тры з паловай тысячы – легкавых, дзве тысячы чатырыста – грузавых і сто аўтобусаў, – адзначаў Юры Сянько.

У пункце пропуску ўпершыню прадугледзяць рэверсіўную канальную сістэму для афармлення транспартных сродкаў з 32 каналаў – па 16 у кожным кірунку.

У залежнасці ад колькасці машын і аўтобусаў на ўезд або выезд з краіны, лік каналаў можна будзе змяняць па напрамках руху.

– Быў стары праект рэканструкцыі «Каменнага Логу», і мы яго перапрацавалі з улікам сённяшніх рэалій. Гэта сістэма дазволіць зрабіць працу пункта пропуску больш зручнай, – адзначыў старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта.

На тэрыторыі рэспубліканскага пункта мытнага афармлення ўвядуць тэхналогію аўтаматызаванага электроннага размеркавання аўтамабіляў па месцах стаянкі.

Падчас рэканструкцыі нагрузка і транспартныя патокі будуць пераразмеркаваныя на іншыя пункты пропуску, размешчаныя на беларуска-літоўскай мяжы.

Работы па рэканструкцыі плануюць ажыццявіць за кошт пазыковых сродкаў Еўрапейскага інвестыцыйнага банка.

Таксама паблізу «Каменнага Лога» пачалі будаўніцтва транспартна-лагістычнага цэнтра з вялікімі складскімі памяшканнямі, на якім будзе адкрыты ведамасны пункт мытнага афармлення.

– Будаўніцтва плануецца завяршыць да верасня бягучага года. Спадзяёмся, што ўжо ў пачатку кастрычніка гэты лагістычны цэнтр пачне сваю работу, – распавёў старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта.

**Паводле БелТА.**

● ЛІСТ З МІНСКА

## Піша выдавец «Народнай Волі»

**Шаноўныя мае землякі! Я ўжо дваццаць чацверты год выдаю агульнанацыянальную газету «Народная Воля». Яе крэда:**

Мы служым
не ўладзе.
Мы служым
не партыям.
Мы служым
не алігархам.
Мы служым
не апазіцыі.
Мы служым
свайму сумленню.
Мы служым
Свабодзе Слова.
Мы служым
Дэмакратыі,
якая на першае месца
ставіць Сілу закона,
а не закон сілы.
Мы служым
Чалавеку, які мае
не толькі абавязкі,
але і правы.
Мы служым сваім
паважаным чытачам!
Мы служым Беларусі!

### «Народная Воля» не канкурэнт «Рэгіянальнай газеце»

Яна зможа толькі расшырыць Ваша інфармацыйнае поле – мы асвятляем падзеі як нашай краіны, так і сусветныя. Для журналістаў «Народнай Волі» няма забароненых тэм, як няма і недатыкальных асоб. Галоўнае для нас **Праўда** і яшчэ раз **Праўда.** Матэрыялы друкуюцца на дзвюх мовах – беларускай і рускай.

Рады будзем, калі і на Вашым стале побач з «Рэгіянальнай газетай» з'явіцца і «Народная Воля», якая выходзіць два разы ў тыдзень – у аўторак і пятніцу. Падпісацца можна ў любым паштовым аддзяленні. Каб атрымліваць «Народную Волю» ўжо з 1-га жніўня, зрабіце гэта, калі ласка, да 26 ліпеня. Для індывідуальных падпісчыкаў наш індэкс – **63222.** Падпісацца можна на любы тэрмін – месяц, два, тры, паўгода…

Руку на сяброўства, дарагія землякі –

**Іосіф Сярэдзіч,
заснавальнік, выдавец
і галоўны рэдактар
газеты «Народная Воля».**

# «Дзяцей Францыі» сабралі ў пасольстве гэтай краіны

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзень узяцця Бастыліі – нацыянальнае свята Францыі. Яго адзначаюць штогод 14 ліпеня. Сёлета жыхароў Беларусі, якія нарадзіліся ў Францыі, з нагоды свята запрасілі ў Французскае пасольства.**



Фота забяспечанае Аляксандрам САЛАГУБАМ.

**Другая злева ўнізе – Яніна Сташко, у цэнтры – пасол Францыі ў Беларусі Дзідзье Канэс, другі справа ўверсе – Мікалай Салагуб, побач з ім стаіць Аляксандр Салагуб.**

Сярод запрошаных былі маладзечанцы **Аляксандр Салагуб** і яго малодшы брат **Мікалай**, а таксама былая астраўчанка **Яніна Сташко**.

Звычайна падобныя сустрэчы ладзяцца ў амбасадзе. «Дзяцей» – людзей, якія калісьці нарадзіліся ў Францыі, – збіраюць на Каляды. Адбываецца гэта не кожны год.

Сёлета ж сустрэчу правялі 7 ліпеня. Некаторыя прыйшлі са сваякамі. Мікалай Салагуб прыехаў на яе ўпершыню, як і Яніна Сташко. Цяпер яна жыве ля Гродна, але нарадзілася ў Францыі.

Падчас трохгадзіннага абеду пасол распытваў людзей пра вяртанне ў Беларусь, пра яго прычыны.

– Мы не вярталіся, а менавіта прыязджалі. Бацька ад'язджаў не з Савецкага Саюза, а з Польшчы, пад якой тады знаходзілася Заходняя Беларусь. Калі скончылася вайна, людзі па запрашэнні Сталіна ехалі ў Саюз. Тысячы сямей з Гаўра і з Марсэля на караблях у 46-м перабраліся ў Адэсу, – расказвае Аляксандр Салагуб.

Нарадзіўся Аляксандр Аляксандравіч у горадзе Алес на поўдні Францыі. Бацькі паехалі туды з Вілейшчыны на заробкі ў 1930-х гадах. Маці, **Вера**, была гаспадыняй, але на сезонных работах збірала ягады, мыла людзям адзенне. Бацька – таксама **Аляксандр** – працаваў у шахце. Вярнуцца ў Беларусь яны планавалі ў канцы 30-х, але пачалася вайна.

– Жылі ў Францыі не багата. Першы раз пракаціўся на аўтобусе ў 10 гадоў, калі бацька ў 1945 годзе адвёз мяне ў шпіталь з Алеса ў Манпэлье, у клініку Сен-Шарля, – распавядае Аляксандр. – Мне рабілі аперацыю, бо падчас танцаў я пашкодзіў руку. Перад гэтым дапамагчы спрабавалі мясцовыя самавучкі. Быў адзін «спецыяліст» – браў сваіх авечак, ламаў ім суставы, жывёлы клаліся. А калі ўпраўляў суставы на месца – авечкі беглі…

– Яшчэ была вайна, стралялі. Памятаю, у клініцы мяне паклалі на стол, зрабілі наркоз, прывязалі, сказалі, каб лічыў «un, deux, trois», працягвае свой расповед Аляксандр Аляксандравіч.

Салагубы прыехалі ва Украіну цягніком восенню 47-га. Трапілі яны на Данбас. Аляксандру на той час споўніўся 12 гадоў. Савецкі Саюз так і не стаў для сям'і радзімай.

У шахту на Данбасе Аляксандр Салагуб трапіў яшчэ юнаком. Каб зарабіць грошай, папрасіў бацьку ўзяць яго да сябе на шахту. Дырэктар уладкаваў лесагонам – падаваць лес. Працаваў у брыгадзе жанчын – іх было дзевяць. Тыя работніцы з мяне здзекаваліся, дзеўкі маладыя, мне таксама 18 толькі споўнілася, – смяецца Аляксандр.

Пасля служыў у арміі, затым на флоце. Калі прыйшоў, стаў працаваць на шахце ў забоі. Захварэў на радыкуліт, моцна балела паясніца. Таму пераехаў да бацькоў, якія на той момант набылі дом на радзіме – у Маладзечне.

Тут нейкі час працаваў слесарам, станочнікам. У 50 гадоў выйшаў на пенсію.

Цяпер Аляксандру 83 гады, Мікалаю – 72. Старэйшы брат штогод наведвае Францыю, апошні раз быў вясной 2017-га. Там жыве яго сын – таксама Аляксандр.

На пытанне, ці хацеў Аляксандр вярнуцца ў Францыю, ён адказвае станоўча.

– Мы з жонкай хацелі пераехаць у 2002 годзе. Амаль усё было гатовае. Але жонка сказала: «Ведаеш, Саша, у цябе там знаёмыя, мову ведаеш, а ў мяне – нікога. Усе мае тут ляжаць у магілах». Так мы і засталіся ў Беларусі.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# «Ракуцёўскае лета» збірае прыхільнікаў творчасці Максіма Багдановіча

**Стала вядомая праграма свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета-2018», якое адбудзецца 29 ліпеня ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна.**

107 год таму, летам 1911 года, Максім Багдановіч наведаў Беларусь – Вільню і Ракуцёўшчыну. Прыехаў на радзіму малады паэт з Яраслаўля па запрашэнні супрацоўнікаў газеты «Наша Ніва» Івана і Антона Луцкевічаў. У вёсцы Ракуцёўшчына ў фальварку іх дзядзькі, шляхціча Вацлава Лычкоўскага, будучы класік беларускай літаратуры правёў два цудоўныя летнія месяцы. Гэтае падарожжа на Бацькаўшчыну стала вырашальным для яго творчага шляху, бо менавіта тут, на зямлі продкаў, Максім Багдановіч па-сапраўднаму адчуў сябе беларускім паэтам. У Ракуцёўшчыне нарадзіліся вершы і паэмы, якія пазней увайшлі ў адзіны яго прыжыццёвы зборнік паэзіі «Вянок» .

Таму невыпадкова ў адноўленым фальварку кожны год філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча збірае сваіх сяброў і прыхільнікаў творчасці геніяльнага беларускага паэта на традыцыйнае свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета».

### Праграма «Ракуцёўскага лета-2018»

**11:00** – прывітальная імпрэза каля памятных камянёў і ўскладанне кветак.

**11:30** – знаёмства з музеем «Фальварак Ракуцёўшчына», агляд экспазіцыі.

**12:00** – літаратурна-музычная імпрэза «У родным краі», удзел у якой возьмуць беларускія пісьменнікі, дзеячы культуры, музыкі.

**12:00 – 16:00** – інтэрактывы і забавы для наведнікаў: батлеечнае прадстаўленне, традыцыйныя беларускія гульні, музейна-педагагічныя заняткі, квэст, салонныя гульні 19 стагоддзя, бард-сядзібнік.

### Як патрапіць у Ракуцёўшчыну

На электрычцы Мінск-Маладзечна/Маладзечна-Мінск да станцыі Уша ці маршрутным таксі Мінск-Маладзечна да вёскі Краснае. Па вуліцы Сяргея Новікава (ад цэнтральнай вуліцы павярнуць ля царквы) крочыць наўпрост да фальварка.

**Аддзел інфармацыі.**

# Трыумф «трохкаляровых». Зборная Францыі па футболе ўдругі раз стала чэмпіёнам свету

## Распавядаем пра адну з самых тытулаваных зборных планеты

**Галоўная футбольная падзея года завяршылася ў мінулыя выхадныя. У фінале чэмпіянату свету-2018, які гэтым разам прымала Расія, сустрэліся зборныя каманды Францыі і Харватыі. З лікам 4:2 французы абыгралі харватаў.**

### Як здабывалі перамогу

Лік быў адкрыты на 18-й хвіліне матча, калі французскі нападаючы **Антуан Грызман** выканаў падачу ў штрафную, а харвацкі нападаючы **Марыё Манджукіч** няўдала падставіў галаву і зрэзаў мяч ва ўласныя вароты. Праз дзесяць хвілін нападаючы Харватыі **Іван Перышыч** забіў гол у вароты французаў. На 38-й хвіліне Грызман паспяхова рэалізаваў прызначаны суддзёй пенальці. На 59-й хвіліне паўабаронца **Поль Пагба** павялічыў разрыў у ліку.

Нягледзячы на адчайныя атакі харватаў, на 65-й хвіліне лік становіцца 4:1. Гол забіў нападаючы зборнай Францыі **Кіліян Мбапэ**. Аднак ужо на 67-й хвіліне Манджукіч скарыстаўся памылкай французскага варатара **Уга Льярыса** і скараціў разрыў у ліку.

**За ўсю гісторыю ўдзелу ў мундыялі французы раней толькі аднойчы станавіліся чэмпіёнамі свету – у 1998 годзе. Тады капітанам каманды быў яе цяперашні трэнер Дзідзье Дэшам. Акрамя таго, на рахунку французскай зборнай – адзін сярэбраны і два бронзавыя медалі чэмпіянатаў свету.**

### Як пачынаўся французскі футбол

Футбол патрапіў у Францыю праз Ла-Манш яшчэ ў канцы 19 стагоддзя. Французы ўжо ў 1900 годзе прадставілі сваю краіну на дамашніх Алімпійскіх гульнях, поруч з Бельгіяй і, вядома, Вялікабрытаніяй. Францыя разграміла Бельгію, выйшла ў фінал, дзе прапусціла чатыры галы ад брытанцаў. Праз чатыры гады была сабраная першая зборная Францыі, якая 1 мая 1904 года згуляла дэбютны матч супраць Бельгіі ў Брусэлі (3-3).

«Трохкаляровыя» гулялі ў даволі прамалінейны футбол і ў 1908 годзе прапусцілі 17 галоў ад зборнай Даніі, пацярпеўшы самае поўнае паражэнне ў сваёй гісторыі.

### На чэмпіянатах свету

На працягу першых 28 гадоў французы вярталіся з мундыялю без медаляў, часта спыняліся на ўзроўні групавога этапу. У 1930 годзе французы капітулявалі перад амерыканскімі сапернікамі Аргенцінай і Чылі, а ў 1934 годзе вылецелі пасля паразы ад зборнай Аўстрыі (2-3). Пэўны прагрэс адбыўся ў 1938 годзе, калі французы змаглі прабіцца ў другі раўнд ЧС, дзе былі спыненыя будучым чэмпіёнам – зборнай Італіі. Увесь гэты час каманду ўзначальваў **Гастон Баро**, які перажыў вайну і прапрацаваў на трэнерскім мастку аж да 1954 года, але нічога не выйграў.

У сярэдзіне 50-х у камандзе ўсё часцей сталі з'яўляцца хуткія і фізічна моцныя гульцы, якія на працягу 90 хвілін маглі тэрарызаваць сапернікаў, падтрымліваючы зададзены тэмп. На чэмпіянаце свету 1958 года «трохкаляровыя» маглі гуляць у пяць нападнікаў. Зрэшты, зорка ў Францыі была адна – **Жуст Фантэн**. 25-гадовы форвард здолеў накалаціць 13 галоў у сямі матчах.

На тым турніры французы шмат забівалі і шмат прапускалі. У першым матчы супраць Парагвая яны прапусцілі першымі, аднак затым забілі сем галоў у адказ, а фінальны свісток зафіксаваў тэнісны лік (7-3). У другім матчы «трохкаляровыя» ўвогуле прайгралі зборнай Югаславіі, хоць Фантэн афарміў дубль (3-2). Перамога над зборнай Шатландыі дзякуючы голу Жуста ўсё-ткі вывела «трохкаляровых» у наступны раўнд турніру. Там Фантэн зноў зрабіў дубль, французы абыгралі Паўночную Ірландыю, але нічога не змаглі зрабіць з будучым пераможцам турніру – зборнай Бразіліі і іх 17-гадовым геніем **Пеле**, які афарміў хет-трык.

Развіць свой поспех Францыя не змагла. Шэраг лідараў завяршылі сваю кар'еру, а ім на змену не прыходзілі новыя зоркі. Усё змянілася ў пачатку 80-х. У 1982 і 1986 гадах французы двойчы дабіраліся да паўфіналу чэмпіянату свету, але занялі чацвертую і трэцюю пазіцыі адпаведна. Зоркі гэтых гадоў вядомыя ва ўсім свеце: **Плацiні, Жырар, Жырэс, Дзідзье Сікс**. Французы славіліся цудоўнай гульнёй у абароне і ўменнем разганяць хуткія атакі з цэнтра поля. Але недахопам гэтага пакалення была адсутнасць стабільнага галкіпера і забіўнога форварда.

### Залатая эпоха зборнай Францыі

Праваліўшыся ў двух мундыялях 90-х гадоў, «трохкаляровыя» змаглі нарэшце сабраць цудоўны калектыў, які не меў слабых бакоў. У абароне размяшчаліся **Блан, Цюрам** і **Дэсайі**, у цэнтры поля – **Дзідзье Дэшам**, на левым флангу атакі **Зінедзін Зідан**, а на вастрыі атакі **Лако**, якога пасля замяніў лепшы бамбардзір у гісторыі французаў **Цьеры Анры**. Такі склад проста не меў права не выйграць буйны міжнародны турнір і ў 1998 годзе заваяваў Кубак свету. У той кампаніі французы прапусцілі толькі двойчы. Зідан, аўтар дубля ў фінале, быў уключаны ў сімвалічную зборную, нягледзячы на тое, што прапусціў амаль увесь групавы этап з-за выдалення ў першым матчы.

У 2002 годзе Францыя зноў з'явілася фаварытам чэмпіянату свету ў Паўднёвай Карэі, аднак з-за няўдалай гульні вылецела ўжо на групавой стадыі. Зрэшты, праз чатыры гады французам атрымалася рэабілітавацца перад сваімі фанатамі і зноў дайсці да фіналу. У скандальным фінале мундыялю яны саступілі зборнай Італіі ў серыі пенальці. Пасля турніру завяршылі кар'еру Зідан і **Бартэз**. У складзе зборнай Францыі па-ранейшаму заставалася шмат зорак сусветнага ўзроўню, аднак наступныя два розыгрышы Кубка свету завяршыліся вылетамі на ранніх стадыях. У 2014 годзе каманда паспяхова выступіла на мундыялі, дайшла да чвэрцьфіналу, дзе з лікам 0:1 саступіла Германіі.

### На чэмпіянатах Еўропы

Зборная Францыі згуляла на першым у гісторыі кантынентальным першынстве Еўропы, аднак выступіла няўдала, заняўшы толькі чацвертае месца ў фінальнай групе. Затым на працягу дваццаці гадоў французы не маглі выйсці ў фінальную частку турніру, пакуль Еўра не прыехаў у Францыю. Каманда, якой кіраваў **Мішэль Ідальго**, узяла залатыя медалі. На стадыі першага групавога этапу французы атрымалі дзве сухія перамогі, затым у дадатковы час абыгралі партугальцаў, а ў вырашальным матчы разграмілі зборную Іспаніі.

Пачынаючы ад 1992 года, Францыя не прапусціла ніводнага чэмпіянату Еўропы. У 2000-м яна змагла другі раз у сваёй гісторыі ўзяць золата ЧЕ. Перамога на турніры атрымалася вельмі цяжкай. Французы страціла ачкі ў адборачных матчах супраць зборных Украіны і Расіі. Нягледзячы на гэта, яна выйшла са сваёй групы з першага месца, а на турнір адправілася практычна з тым жа складам, які двума гадамі раней перамагаў на чэмпіянаце свету. Аднак лідарам гэтай каманды ўжо з'яўляўся Зінедзін Зідан, а асноўным бамбардзірам **Цьеры Анры**. Першы бараздзіў усю лінію паўабароны, гуляў на пазіцыі адцягнуць форварда і плеймекера. А Анры забіў тры галы, зраўняўшы лік у фінальным матчы супраць Партугаліі. Лёс медалёў вырашыў Залаты Гол **Давіда Трэзеге**, забіты з пенальці на 117-й хвіліне сустрэчы.

Наступныя тры еўрапейскія першынства нічым добрым для французаў не скончыліся. Двойчы яны выходзілі з групы, але капітулявалі перад першым жа сапернікам у плэй-оф, а ў 2008 годзе яны і зусім не змаглі выйграць ні аднаго матча, занялі 15-е месца з 16 камандаў. У 2016 годзе Францыя ў трэці раз у сваёй гісторыі прымала Еўра ў сябе дома, дайшла да фіналу, у якім саступіла Партугаліі з лікам 1-0.

### Іншыя турніры

Французы двойчы ўдзельнічалі ў Кубках канфедэрацый – і двойчы заваёўвалі трафей. Першы кубак быў здабыты ў Паўднёвай Карэі ў 2001 годзе, а праз два гады зборная зноў выйграла турнір, які на гэты раз праходзіў у Францыі.

Найбольшую колькасць матчаў за зборную згуляў Ліліян Цюрам – 142 матчы.

Лепшы бамбардзір зборнай – Цьеры Анры (51 мяч).

Самая буйная перамога – 10:0 супраць зборнай Азербайджана, кваліфікацыя на чэмпіянат Еўропы 1996 года, 6 верасня 1995 года.

Самая буйная параза – 17:1 супраць зборнай Даніі, таварыскі матч, 22 кастрычніка 1908 года.

**Уладзіслаў КРУМКАЧ.**


Фота Darren Staples / Reuters.

Зборная Францыі ў першыя імгненні пасля фінальнага свістка.



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Калі гэта кветка распускаецца, становіцца ружовай, пасля пурпурнай, пасля гэтага фіялетавай, а затым сіняй.
2. Аркадзь Куляшоў: «Як увосень знікае Маркотнае сонца за свет, То зямля свaё сонца Раўнуе да іншых …».
6. Прадмет сталовага прыбора для зачэрпвання рэдкай або рассыпістай ежы.
7. Спрытны ў рухах.
10. Прыстасаванне для сядзення на некалькі чалавек.
11. У старажытныя часы так каралі тых, хто не ўмее размаўляць па-грэчаску.
14. Перыядычнае, звычайна штодзённае, друкаванае выданне інфармацыйнага характару.
15. Дзелавая або сардэчная размова; абмен думкамі.
16. Асоба малодшага медыцынскага персаналу ў лячэбных установах, якая даглядае хворых і раненых, сочыць за чысцінёй у палатах.
19. Галоўным ворагам Гітлера быў не Сталін, а ён.
20. Эпітэліяльная, злучальная, мышачная і нервовая – усё гэта што?
21. Стан, самаадчуванне адзіноты; смутак, туга.
25. Якое пакаранне чакала тых, хто ў часы Чынгісхана мачыўся ў вадаём ці раку?
26. Арыгінальны, не падобны на іншых; своеасаблівы.
30. Збан без ручкі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Тое, што і ляск.
4. Асвятляльны прыбор з крыніцай святла ў шкляным шары або футарале са шклянымі сценкамі.
5. Прозвішча вядомай гераіні твора Льва Талстога, якая загінула ў 28 год.
8. Менавіта тут размешчаныя самыя маленькія косткі ў чалавека.
9. Гэтая частка раслін першай адгукаецца на пацяпленне вясной.
12. Населены пункт Астравецкага раёна, які ўпершыню ў пісьмовых крыніцах узгадваюць у 1391 годзе. У канцы 17 стагоддзя мястэчка належала Абрамовічам. У 19 стагоддзі яго краявіды намаляваў Напалеон Орда.
13. Адсутнасць жадання працаваць.
16. 50 год таму ён натхніў англійскага арбітра на стварэнне жоўтых і чырвоных картак у футболе.
17. У гэтым месяцы надыходзіць вясна ў Аўстраліі.
18. Менавіта гэта месца лічаць самым крывавым у гісторыі.
19. Наследны тытул вышэйшага дваранства ў Англіі.
22. У юрыспрудэнцыі — сумесная адказнасць.
23. Каларытны, насычаны спалучэннем яркіх фарбаў.
24. Рымскі імператар Калігула вельмі любіў Інцытата, таму зрабіў яго грамадзянінам Рыма, а пасля сенатарам. Хто такі Інцытат?
27. Чаго не хапае ў спісе Скарыны: звяры, птушкі, рыбы, людзі.
28. Частка нагі ад калена да ступні.
29. Самая высокая ступень творчай адоранасці, таленавітасці.

## Адказы на крыжаванку з №28

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Бедства. 2. Хмызняк. 4. Елка. 6. Зола. 9. Тайна. 11. Сена. 13. Славакія. 15. Хмара. 16. Табу. 19. Цар. 21. Прамень. 22. Ашмяны. 23. Барада. 27. Тамбур. 28. Карп.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Талакно. 5. Таблетка. 7. Градус. 8. Юшка. 10. Храбрасць. 12. Экалогія. 13. Сцежка. 14. Жнівень. 15. Хрып. 17. Хурма. 18. Ветрам. 20. Купэ. 23. Баласт. 24. Антанта. 25. Флейта. 26. Юніёр. 29. Бенефіс.

## ГАРАСКОП 20-26 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Вы спрабуеце ўсе пытанні і праблемы вырашыць пры дапамозе лагічнага мыслення. І ў вас нядрэнна атрымоўваецца пралічваць хады, але цяпер лёс патрабуе зусім іншых дзеянняў. Халодны разлік можа толькі пагоршыць адносіны з навакольнымі, а то і зусім вас заблытаць. Вам трэба навучыцца адпускаць падзеі ў самастойнае плаванне.



**ЦЯЛЕЦ.** Каб шчасціла ў жыцці, неабходна разабрацца ў сабе, у сваіх патаемных жаданнях і запале, навучыцца разумець, узаемадзейнічаць і ўтаймоўваць свой унутраны свет. Свае эмоцыі трымайце пад кантролем, але не заганяйце іх надта далёка.



**БЛІЗНЯТЫ.** Час спрыяльны для вас, асабліва ў пытаннях, якія тычацца эмацыйнай сферы. Нельга назваць гэта прыступамі беспадстаўнай радасці, вашы эмоцыі, наадварот, прыйдуць у стабільнае рэчышча, якое будзе мець пад сабой значную аснову.



**РАК.** Фінансавае становішча дасягае стабільнасці, гэта той стан, калі вашы выдаткі роўныя вашым даходам. Такую раўнавагу лёгка парушыць, калі быць празмерным у патрэбах. Але пры мудрым падыходзе ў ёй можна знаходзіцца доўга і жыць у радасці.



**ЛЕЎ.** Вы цяпер вельмі ранімыя і, на жаль, у такія моманты слабасці заўсёды знойдзецца хтосьці, хто здольны сапсаваць вам настрой яшчэ больш.



**ДЗЕВА.** Вам трэба будзе зрабіць сур'ёзны выбар, прычым выбіраючы адно, неабходна будзе адмовіцца ад іншага, што зрабіць не так проста. Для правільнага выбару звярніцеся да сваёй падсвядомасці, пачуццяў. Вы здольныя інтуітыўна зразумець усё, што адбываецца. Правільны выбар прынясе гармонію і дабрабыт.



**ШАЛІ.** Сёння ўдача можа ўсміхнуцца вам у фінансавых справах. У эмацыйнай сферы чашы вагаў, наадварот, ідуць у ніз – такі закон раўнавагі.



**СКАРПІЁН.** Вы адчуеце ўладу ў сваіх руках і пачняце цалкам выкарыстоўваць яе. Сваё адлюстраванне яна знойдзе ў новых пачынаннях, у актыўных дзеяннях, накіраваных на паляпшэнне вашага будучага. Не распыляйцеся, паспрабуйце сканцэнтравацца на чымсьці адным, і тады вас чакае поспех.



**СТРАЛЕЦ.** Усё ў вашых руках – хоць вы і самі гэта ведаеце. А ўсе дні – толькі чарговае пацвярджэнне таму. Вас чакае дамашняя ўтульнасць і стабілізацыя ва ўсіх сферах, асабліва ў справах, звязаных з работай.



**КАЗЯРОГ.** Вам пара ўзбадзёрыцца, ачуняць, бо нельга так доўга заседжвацца на адным месцы, хоць яно добрае ці дрэннае. Жыццё прымушае ўсяму мяняцца, і мяняе нас саміх. Вам трэба схамянуцца і паставіць перад сабой задачу, дасягнуўшы якой, вы набудзеце спакой і дабрабыт.



**ВАДАЛЕЙ.** Вам трэба будзе свядома адмовіцца ад нейкіх дабротаў дзеля іншага чалавека, а таксама дзеля самога сябе, свайго душэўнага спакою і, магчыма, нават прасвятлення.



**РЫБЫ.** Цяпер надыходзіць той час, калі вы можаце памяняць сваю эмацыйнасць на раўнамернае цячэнне жыцця, на поўную раўнавагу і стабільнасць. А калі дасягнеце гэтага стану для сябе, то зможаце дапамагчы парадай іншым людзям.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 2 | 3 | | | 1 | | | |
| 1 | | | 8 | | | | 7 | |
| | 8 | 7 | 4 | 2 | | | | |
| | 5 | | | | | 8 | 4 | |
| 7 | | | | | 8 | | 2 | |
| | 3 | 9 | | | 4 | 6 | | |
| 3 | 1 | | | | | | | |
| 4 | | | | | 5 | 2 | 6 | |
| 5 | 9 | 6 | | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## ● НАДВОР'Е

### 21 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +19 / +24 | | +19 / +24 | | +18 / +24 | | +18 / +25 | |
| | 733 | ↓ 4 | 735 | ↘ 6 | 736 | ↘ 3 | 737 | ↓ 1 |
| Вільня | +18 / +23 | | +17 / +23 | | +16 / +24 | | +15 / +25 | |
| | 740 | ↘ 4 | 742 | ↘ 5 | 743 | → 3 | 744 | ↓ 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветру м/с. Усход, захад па Маладзечне.

Усход 5.06
Захад 21.31
Даўжыня дня 16.25

Усход 15.40
Захад 01:00
Квадра 2

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +18 / +22 | 741 | ↘ 4 |
| Гродна | +17 / +25 | 746 | ↘ 5 |
| Мінск | +19 / +24 | 735 | ↘ 6 |
| Магілёў | +20 / +24 | 740 | ↘ 4 |
| Брэст | +17 / +24 | 745 | ↘ 4 |
| Гомель | +19 / +25 | 742 | ↘ 4 |

## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +7,9°С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +31,4°С у 2001 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 21,5 мм у 1981 годзе
Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якім вы бачыце Маладзечна праз 20 гадоў?

**Уладзіслаў Сабачэўскі, слесар-рамонтнік:**
– Праз 20 гадоў наш горад будзе выглядаць яшчэ лепш, будзе больш прыгожым, сонечным і ўтульным. З'явіцца шмат інавацый і тэхналогій, якія будуць паўсюль, з імі будзе лягчэй жыць.

**Марыя Барэйка, актрыса:**
– Я вельмі хацела б, каб горад развіваўся і станавіўся толькі лепшым, зазяў чысцінёй і прыгажосцю. Хацелася, каб горад быў больш тэатральным, музычным, увогуле творчым! Але самае галоўнае, каб горад не страціў сваёй непаўторнасці і індывідуальнасці.

**Таццяна Целяжэвіч, разметчыца на ЗМК:**
– Горад будзе яшчэ прыгажэйшы. Ён і цяпер прыгожы, але будзе яшчэ лепшы. Галоўнае, каб людзі шанавалі гэта, захоўвалі чысціню ў Маладзечне.

**Яўген Фамінскі, пенсіянер:**
– Маладзечна застанецца такім жа добрым горадам. Я пераехаў сюды ў 60-м годзе. У горадзе шмат чаго змянілася за гэты час. Спадзяёмся на лепшае.

**Вераніка Догель, мама, у дэкрэтным адпачынку:**
– Складана сказаць, што будзе праз 20 гадоў. Адбудуцца змены ў лепшы бок ці не. Але мне як маладой маці вельмі хацелася, каб у горадзе з'явіліся кабінкі для кармлення грудзьмі. Для мяне гэта праблема.

**Алена Апанасевіч, камендантка:**
– Маладзечанцы будуць больш усміхацца, і зарплаты павялічацца.

**Паліна Пракопчык, студэнтка:**
– Маладзечна назаўжды застанецца горадам сонца. Тут будуць бегаць маленькія дзеткі ў парку, будзе збірацца моладзь па вечарах на гарадскіх святах, як і цяпер. Заўсёды будзе прысутнічаць цёплая і дамашняя атмасфера.

**Падрыхтавала Марыя КРУПСКАЯ.**

## Чытайце праз тыдзень

● **Каб гараджаніну выбрацца ў свет, пабачыць знаёмых і пачуць навіны, якіх няма ні па тэлебачанні, ні ў інтэрнэце, варта завітаць на кірмаш. А што рабіць для гэтага вяскоўцам? А ім некалькі разоў на тыдзень даводзіцца чакаць аўталаўку. Што набываюць у аўталаўцы жыхары вёскі Рэдзькі на Маладзечаншчыне?**

## Праўдзі дажджлівы летні дзень з «Рэгіянальнай газетай»!

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

# Хлопец зрабіў стаўку на Францыю і выйграў 1800 рублёў

– Я выбіраў паміж Францыяй і Бразіліяй, але французы ўсё ж пераканалі сваім складам, – прокаментаваў чэмпіянат свету па футболе-2018 ураджэнец Маладзечна **Павел Гамолка**.

– Увогуле, «на адгадаць» праз інтэрнэт паставіў 200 рублёў. Апошні раз рабіў стаўку гады тры таму, ужо не памятаю, на каго, выйграў прыкладна 50 рублёў, – распавёў хлопец карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».

**Таццяна КАСЬЯН.**

# З'явілася музычная лаўка

**МЯДЗЕЛ**

На вуліцы 17 Верасня ў Мядзеле з'явіўся новы тэматычны аб'ект – незвычайная лаўка.

Яе паставілі ля будынка дзіцячай школы мастацтваў. Музычная лаўка ў выглядзе клавіш фартэпіяна са спінкай з нот выклікае цікавасць у мядзельчан і гасцей горада.

**Аддзел інфармацыі.**

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Чаго не спіш?
– У інтэрнэце сяджу.
– Крута, а я ў гасцях.
– У каго?
– У цябе!
– Ой, а я забыўся.

***

Купілі дзед з бабай радыё, уваткнулі ў разетку... 220V. Чакаюць, пайшоў дымок.
Дзед:
– Штосьці маўчыць?
Баба:
– Зараз пакурыць, можа, што і скажуць...

***

– Мілы, можа мне прычоску памяняць, валасы назад зачасаць?
– Ты што – здурнела? Дзе валасы, а дзе зад?!

***

Прабач, што ўзяў твае грошы. Яны выглядалі адзін у адзін як мае.

***

– Дочачка, выходзь за яго замуж.
– Не пайду. Ён рыжы.
– Нічога, год з табой пажыве і стане сівым.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№29 (1212) 20.07.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 422. Падпісана ў друк у 9.00 19.07.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.